ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 25 (4569) 25 чэрвеня 2010 г.

# У нумары:





**24 чэрвеня людзі, неабыякавыя да нашай культуры, адзначалі 110-годдзе з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Кузьмы Чорнага (Мікалая Карлавіча Раманоўскага). Яго проза дагэтуль вабіць сваёй глыбінёй і важкасцю. Тое, што яна ўвайшла ў "залаты фонд" нацыянальнай літаратуры, сёння ні ў каго не выклікае сумневаў.**



# Вастрыня харáства

Кузьма Чорны шукаў цэласнасці. І яна жыла ў вёсцы. У вёсцы няма таямніц, і людзі — як на далоні. Магчымасць згубы, лёгкі шлях у невараць, нішчымніца і цяжкая праца — усё гэта Чорны спазнаў яшчэ ў раннім дзяцінстве. Ды і юнацтва не было салодкім. Цікавы дакумент трапіўся мне ў Нацыянальным архіве. Гэта заява Чорнага-студэнта дэкану Педагагічнага факультэта БДУ: "Находясь в очень тяжелых материальных условиях, я не имею возможности оставаться до 25-го декабря. Кроме того, не имея на дорогу денег, мне приходится идти домой пешком — 110 верст. Поэтому прошу разрешить мне отпуск на каникулы с 15 декабря. 13 / 12 — 23 г. Н. Романовский". І ўяўляеш сабе: снежань, замеценая снегам дарога, мароз. Ісці яшчэ вельмі доўга, і, каб не замерзнуць, не аслабнуць і не паддацца спакусе адпачыць, жывой гарачай крыніцай імкне думка, ствараюцца ў свядомасці новыя апавяданні, будуюцца раманы. І колькі ў дарозе сустрэч, размоў з незнаёмымі, але самавітымі людзьмі-беларусамі! І хочацца пазнаёміцца з імі, паслухаць іх гісторыю жыцця, зазірнуць у самыя далёкія куточкі іх душ, каб пасля паспрабаваць самому нанова прыдумаць іх...

Для Кузьмы Чорнага гэтая бясконцая прага ўдасканалення вельмі характэрная: ён пастаянна шукае, увесь час хоча напісаць яшчэ лепш, чым раней. Таму ён звяртаўся і да вопыту класікі сусветнай прозы, а таксама часта перарабляў ужо напісанае і апублікаванае апавяданне (часам — і з пытанняў нелітаратурнага характару, а працей — цэнзуры). Чорнаму быў уласцівы "абсалютны слых" на слова. Паэт Мікола Аўрамчык у нядаўнім інтэрв'ю распавядаў, што ў часе вучобы ў школе даслаў быў у Мінск сваё апавяданне і неўзабаве атрымаў адказ ад самога Кузьмы Чорнага. Увесь той вучнёўскі твор быў пакрыты заўвагамі, праўкамі і парадамі мінскага літаратурнага настаўніка. А такіх твораў і карэспандэнтаў было ў Кузьмы Чорнага дзесяткі і сотні. Пра тую ж датклівую працу над словам, над будовай твора, пра ўменне адчуць у творы іншага дысананс і ўменне парадавацца чужому свежаму вобразу, трапнаму народнаму слову, удала скроенай фразе гаварылі ў сваіх успамінах Я. Скрыган і І. Мележ.

Гэта вылучала яго з агульнага шэрага празаікаў 1920-х, дзе панавала бурапена, валадарыла эмоцыя. Пачынаў Чорны таксама з эмоцыі, з лірычных імпрэсій у бядулеўскім ключы. Масавая проза 1920-х была заснаваная на лірычным плыўкім фундаменце, напоеная рэвалюцыйнымі песнямі, рыторыкай пракламацый і газет. Чорны вырас на гэтым, але ён захацеў гэта пераадолець. Год за годам расло яго майстэрства апавядальніка і паступова пераходзіла ад абстрактнай эмоцыі да чыстай, як сёння сказалі б, "нарацыі". Асабіста мне дарагія на гэтым ягоным шляху сталення гады "ўзвышэнства", калі празаік знаходзіўся на памежжы лірычнай плыні аповеда (і апавяданне гучала як верш ці, хутчэй, версэт) і класічнай чыстай прозы. Тады стварыўся сапраўды непаўторны сінтэз двух творчых метадаў. Пазней, у трыццатыя, прыйдзе гвалтоўны рэпрэсіўны злом, самацэнзура, а ў гады вайны зноў разняволіцца рука, ды бачыцца будзе ўсё не ў святле, а ў змроку, сімвалах і знаках бяды. Позняя сімвалізацыя ў Чорнага падобная да метаду Платонава, апошні, праўда, даводзіў часам гэта да крайняга экспрэсіянізму, на што Чорны пайсці не мог, як проста іншы па ментальнасці чалавек.

Будзе правільным гаварыць і пра тое, што для самога Кузьмы Чорнага важней была не форма, не метад, а іншае — як мага больш дакладна адлюстраваць душу беларуса, паказаць яе глыбіню. Але гэта не сталася самамэтай. Чорны вельмі любіў сваю Бацькаўшчыну і вельмі любіў літаратуру. Ён быў з кагорты тых творцаў, якія не перастаюць быць літаратарамі, выйшаўшы з кабінета рэдакцыі. Тут таксама прыгадваецца імітацыя гаворкі сялян-дзядоў на пасядзелках у футурыстычнай камуне Шукайлы, а пазней і блуканне па кірмашах, прыслухоўванне, прыглядванне (успаміны Я. Скрыгана); у выдрукаваных нядаўна часопісам "Нёман" лістах В. Віткі ваеннага часу знаходзім захапленне паэта ўменнем К. Чорнага пераўвасабляцца ў случакоў, трапна перадаваць іх манеру размовы.

Ён любіў, як гэта ні пафасна гучыць, сваю краіну і тых людзей, што спрадвеку жылі на ёй. І Чорны, гаворачы і такое: "Хто мае права залазіць у чужую душу? Асабліва, калі не ўпэўнены, што словы твае будуць лекамі. Глядзі, каб не залезці ў чужую душу з цвёрдымі капытамі…", — працягваў прыадчыняць свету беларускую душу і беларускую зямлю. Ён ведаў цану нашай "вастрыні харáства" і праз адлюстраванне гэтай спаконвечнай гармоніі (а ў гады вайны — антынамічна — дысгармоніі) жадаў злучыць і цвёрда паставіць на "пачэсны пасад" свой шматпакутны народ.

Чорны-пісьменнік, як ніхто іншы, адчуваў, што танчэй за ўсе з'явы і эйдасы наструнены між сабой ніці чалавечых адносін. Іх вельмі проста разарваць, але як нялёгка аб'яднаць нанова. Гэта, мусіць, і з'яўляецца галоўным напамінам, які пакінуў нам, чытачам з беларускай будучыні, чалавек вялікага сэрца Кузьма Чорны.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Пункцірам

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-годдзем народнага артыста СССР Юрыя Саломіна, з юбілеем — заслужаную артыстку Рэспублікі Беларусь Нэлі Багуслаўскую.

• Дакументальны фільм «Днюка» маладых беларускіх рэжысёраў Андрэя Куцілы і Аляксандра Налівайкі ўзнагароджаны галоўным прызам XVI міжнароднага фестывалю лакальных тэлеканалаў, які адбыўся ў славацкім горадзе Кошыцэ. Хлопцы здымалі фільм у вёсцы Лышча на Піншчыне, гэта адначасова смешнае і самотнае кіно, прысвечанае непаўторнаму ладу жыцця палескага сяла.

• У Будапешце адкрылася фотавыстава "Нацыянальная бібліятэка Беларусі". На ёй прадстаўленыя выявы будынка ў выкананні беларускіх майстроў фота — Анатоля Дрыбаса, Лолія Македонскага, Аляксандра Жарнасека, Віктара Суглоба і Валерыя Харчанкі.

• На фэсце "Be2gether", які распачаўся сёння каля літоўскага замка Нарвілішкес, упершыню працуе павільён беларускай культуры. Экспазіцыя актыўная і розная: ад старажытных рамёстваў і гульняў да сучаснага мастацтва і дакументалістыкі.

• Перабродскі сельскі выканкам Міёрскага раёна атрымае фінансавую падтрымку ў рамках сумеснага праекта Еўрапейскага саюза і Праграмы развіцця ААН "Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні! для стварэння музея рыбалоўства на шляху Зялёнага маршруту з Полацка ў Браслаў.

• 30 чэрвеня ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адбудзецца першы музейны hand-made фестываль "Поруч…". У межах мерапрыемства чакаюцца выставы аўтарскіх работ, кірмаш, майстар-класы па вышыўцы, пляценні, пластыцы, арыгамі, музычная імпрэза, дэманстрацыя самаробных інструментаў, а таксама прэзентацыя рэчаў, зробленых рукамі продкаў М. Багдановіча (шафа, змайстраваная А. Я. Багдановічам, бацькам паэта, саматканыя, вышытыя ручнікі і інш.)

• Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі прадставіў адно з новых паступленняў сваёй калекцыі — унікальны кантрабас, як мяркуецца, зроблены ў 1750 годзе італьянскім майстрам П'етра Антонія Ландольфі. Раней інструмент належаў выдатнаму савецкаму музыканту Ігнацію Салодчану (1888 — 1951), аднаму з заснавальнікаў кантрабасавага мастацтва ў Беларусі.

• Дні культуры Беларусі ўпершыню пройдуць у Венгрыі на пачатку ліпеня. У праграме выступленні Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", а таксама выстава графікі.

• У нацыянальным мастацкім музеі адбылося ўручэнне міжнароднай прэміі імя Міхаіла Шолахава ў галіне літаратуры і мастацтва за 2010 год. Узнагароду атрымаў народны мастак Беларусі, ветэран вайны Віктар Грамыка.

• 15 гадоў таму, 23 чэрвеня 1995 года, быў адкрыты для наведвальнікаў Аршанскі этнаграфічны музей "Млын", філіял Музейнага комплексу гісторыі і культура Аршаншчыны. Размешчаны гэты музей у гістарычным цэнтры горада, паміж ракамі Днепр і Оршыца, у будынку вадзянога млына, які з'яўляецца помнікам прамысловай архітэктуры пачатку XX стагоддзя.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У братняй лучнасці і згодзе

Дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі — першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ Рыгор Сакалоўскі, галоўны рэдактар часопіса "Белая Вежа" Васіль Шырко, паэт Казімір Камейша, празаік і публіцыст Анатоль Смалянка — прыняла ўдзел у Днях літаратуры і мастацтва "Нам дороги эти позабыть нельзя", а таксама ў рабоце першага выязнога пленума Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Мерапрыемствы, прысвечаныя 65-годдзю Вялікай Перамогі, прайшлі ў горадзе Курску і іншых гарадах рэгіёна.



Па традыцыі на тэрыторыі Цэнтральнай федэральнай акругі Расійскай Федэрацыі штогод адбываюцца Дні літаратуры і мастацтва славянскіх народаў. У мінулыя гады Дні праходзілі ў Разані — да 100-годдзя з дня нараджэння Сяргея Ясеніна, у Белградзе, дзе адбылося адкрыццё памятнага знака Рускаму слову, у Ліпецку — у Год рускай мовы, у Калузе.

Сёлетнія Дні літаратуры і мастацтва адбыліся на свяшчэннай Курскай зямлі, імем якой названа адна з галоўных бітваў Вялікай Айчыннай вайны, на зямлі, якая дала культуры ў XX стагоддзі імёны слынных пісьменнікаў Яўгенія Носава і Канстанціна Вераб'ёва, кампазітара Георгія Свірыдава і скульптара Вячаслава Клыкава.

Знакавай падзеяй сёлетніх Дзён літаратуры і мастацтва стаўся пленум Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, які прайшоў у будынку Курскай абласной бібліятэкі. На пленуме выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Валерый Ганічаў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, член прэзідыума Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Генадзь Пашкоў, старшыня Курскай абласной пісьменніцкай арганізацыі Мікалай Грабнеў, пісьменнік Уладзімір Праскурын, галоўны рэдактар часопіса "Север" (Карэлія) Алена Пеціляйнен, украінскі пісьменнік галоўны рэдактар часопіса "Славянін" Леанід Мачулін, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Генадзь Іваноў і іншыя літаратары.

На пленуме была агучана інфармацыя аб прысуджэнні вядомаму беларускаму пісьменніку Алесю Савіцкаму міжнароднай літаратурнай прэміі "Прохараўскае поле".

Каля 130 пісьменнікаў з Расіі, Беларусі і Украіны выступілі ў працоўных калектывах і студэнцкіх аўдыторыях у г. Курску і ў гарадах рэгіёна Железнагорску, Курчатаве, Лігове, Рыльску, у пасёлках Паныры і Мядзвенка. Былі ўскладзены кветкі да манументаў Славы, да помнікаў Я. Носаву, К. Вераб'ёву, Г. Свірыдаву. Пісьменнікі наведалі Літаратурны музей, пабывалі на адкрыцці новага Дома літаратара ў Курску.

Чарговы выязны пленум Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі вырашана правесці на тэрыторыі Брэстчыны ў дні 70-годдзя пачатку гераічнай абароны Брэсцкай крэпасці (чэрвень 2011 года).

Людміла КАЛЕНДА

На здымку: дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Нататкі з Дзён літаратуры і мастацтва славянскіх народаў у Курску чытайце ў адным з наступных нумароў "ЛіМа".

## Кінапрэм'еры



22 чэрвеня ў гадзіну ночы ля Тэрэспальскай брамы легендарнай цытадэлі-героя, якая ў 1941 годзе першая прыняла на сябе ўдар ворага, распачаўся паказ новага фільма "Брэсцкая крэпасць". Перад прэм'ерай, на якой прысутнічалі журналісты, афіцыйныя асобы, ветэраны, аб працы над карцінай распавялі гледачам акцёры, а таксама аўтар ідэі і генеральны прадзюсер фільма, старшыня Тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі Саюзнай дзяржавы Ігар Угольнікаў.

# Ноч у Брэсцкай крэпасці

Гэта першы расійска-беларускі праект такога маштабу, зняты сумесна тэлекампаніяй "Цэнтрал Партнершып" і кінастудыяй "Беларусьфільм" — праца над ім вялася каля двух гадоў. Але не апошні: ужо вядома, што другім кінапраектам Саюзнай дзяржавы стане "Чорны замак Альшанскі" па знакамітым рамане Уладзіміра Караткевіча.

Тры гадзіны драматычнага дзеяння на экране пад адкрытым небам праляцелі хутка. Пасля паказу людзі сімвалічна ўсклалі кветкі і напоўненыя біклагі да манумента "Смага". А ў 4 гадзіны раніцы — у час пачатку Вялікай Айчыннай вайны — адкрыўся канцэрт-рэквіем "Вахта памяці", галоўнай падзеяй якога стала прэм'ера кантаты "Брэсцкая крэпасць" Антона Лубчанкі. Нягледзячы на ранні час, сустрэць світанак у Брэсцкай крэпасці сабралася вельмі шмат людзей, некаторыя брастаўчане прыйшлі з дзецьмі.

Вечарам гэтага ж дня гала-прэм'ера патрыятычнай драмы адбылася ў Маскве на Міжнародным маскоўскім кінафестывалі. Нагадаем, што некалькімі днямі раней перадпрэм'ерны паказ прайшоў і ў Мінску. Сярод гледачоў прысутнічаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, які станоўча ацаніў высілкі стваральнікаў карціны і засведчыў, што "фільм вельмі моцны".

Алена НАЧАЛАВА

На здымку: акцёр Аляксей Капашоў у ролі выхаванца музычнага ўзвода Сашкі Акімава.

Фота аўтара

## Конкурсы

# Лепшы з лепшых

Калі вы ўяўляеце бібліятэкара "шэрай мышкай" альбо "сіняй панчохай", значыць, вам не пашанцавала трапіць на конкурс "Бібліятэкар Мінска-2010". Мерапрыемства адбылося ў сталічнай Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы і было прымеркавана да гадавіны з дня ўтварэння Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі.

Наведвальнікі мелі магчымасць ацаніць творчыя праекты дзевяці ўдзельнікаў конкурсу — сучасных бібліятэкараў розных устаноў: пабачыць прадэманстраваныя імі мадэлі прафесійнага касцюма і вызначыць уладальніка прыза глядацкіх сімпатый. Крэатыўнасць і аптымізм бібліятэкараў пераўтварылі конкурс у сапраўднае свята прадстаўнікоў гэтай карыснай прафесіі, што застанецца запатрабаванай нават у эпоху Інтэрнэта.

Бо экспрэс-бібліятэкі і бібліятэкі "level — up", ідэі стварэння якіх былі прапанаваныя канкурсантамі, бясспрэчна, выпрабоўваюць канкурэнцыю з сайтамі электронных бібліятэк! Падрабязны расповед пра конкурс — у адным з бліжэйшых нумароў "ЛіМа". Званне ж лепшага бібліятэкара атрымала Наталля Нікіціна!

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Канферэнцыі

# Падрыхтоўка да жыцця-творчасці

У Акадэміі паслядыпломнай адукацыі прайшла Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Роля педагога ў рабоце з адоранай моладдзю", у якой прынялі ўдзел навукоўцы, метадысты, настаўнікі. З вітальным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі звярнуўся міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў.

На пленарным пасяджэнні, якое вёў намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Казімір Фарыно, былі абмеркаваны праблемы кіравання развіццём інтэлектуальнага патэнцыялу адоранай моладзі (Алег Таўгень, рэктар Акадэміі паслядыпломнай адукацыі), стварэння навукова-метадычнага забеспячэння работы з адоранай моладдзю (Генадзь Пальчык, дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі), выкарыстання дасягненняў псіхолага-педагагічнай тэорыі ў школьнай практыцы (Міхаіл Волкаў, настаўнік матэматыкі гімназіі № 8 г. Віцебска). З дзейнасцю спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных вучняў і студэнтаў пазнаёміла прысутных старшыня савета згаданага фонду Алена Бялова.

Падчас працы сямі секцый адбылося зацікаўленае, часам даволі вострае абмеркаванне пытанняў, звязаных з навуковым і арганізацыйна-метадычным забеспячэннем, асаблівасцямі прафесійнай педагагічнай падрыхтоўкі сучаснага настаўніка да працы з адоранай моладдзю, правядзеннем рэспубліканскіх алімпіяд па вучэбных прадметах і інш.

У рэзалюцыі, якая была прынята па выніках канферэнцыі, знайшлі адлюстраванне найбольш актуальныя, надзённыя праблемы адпаведнага сегмента адукацыйнай прасторы, а таксама быў акрэслены шэраг стратэгічна важных задач, ад эфектыўнага вырашэння якіх у значнай ступені залежыць плённасць працы ўсёй сістэмы адукацыі.

Ірына ШАЎЛЯКОВА

## Акцыі

# Завітаць у кнігарню

Акцыя "На канікулы — з падарункам" распачалася ў "Кнігарні пісьменніка". Установа праводзіць яе сумесна з выдавецтвам "Харвест". Калі чалавек набывае дзве дзіцячыя кнігі, то ў падарунак атрымае яшчэ адну. Таму праект мае яшчэ рабочую назву "Два роўна тром".

Акцэнт на дзіцячай кнізе робіцца для таго, каб далучыць маладое пакаленне да чытання. "Не толькі камп'ютэр робіць нашае жыццё займальным і цікавым. Хочацца, каб дзеці чыталі, ведалі, што ёсць выдатныя кнігі, — заўважае дырэктар кнігарні Святлана Цішкевіч. — Пакупнікі ды чытачы ў нас ад трох год і да дзевяноста. І ўсім у кнігарні цікава".

Агулам жа ў сістэме кнігагандлю "Белкніга" цяпер распачаты тры акцыі. Акрамя згаданай, якая таксама дзейнічае ў кнігарні "Кніжная скарбонка", ёсць яшчэ "Чамаданны настрой" і "Усё па восем тысяч". Назвы акцый гавораць самі за сябе. "Усё па восем тысяч" — гэта ўцэненыя кнігі, сярод іх — проза і паэзія, і можна сустрэць даволі рэдкія і патрэбныя экземпляры. Такія кнігі — у жодзінскім "Кніжным свеце", таксама ў крамах "Кнігачэй" і ў кнігарні "Эўрыка" (Мінск).

Пры набыцці двух мастацкіх выданняў трэцяя кніга ўручаецца бясплатна і ў мінскім "Светачы" ды маладзечанскай "Спадчыне". (Такі "Чамаданны настрой").

Акцыі гэтыя сезонныя, і разлічаны на працяг дыялога з пакупніком ды чытачом улетку, падчас канікулаў ды адпачынкаў.

Летась такая акцыя праходзіла ў адзінкавых кнігарнях, сёлета ў ёй удзельнічаюць 7 кнігарняў ААТ "Белкніга", аб'яднаных агульным сацыякультурным праектам "Чытаць — гэта модна".

Ірына ТУЛУПАВА

## Літ-абсягі

# Лічыў сваёй радзімай

**Вёску Цімкавічы, што ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці, Кузьма Чорны, хоць нарадзіўся ён у вёсцы Боркі, лічыў сваёй радзімай. Тут прайшло дзяцінства пісьменніка, тут ён працаваў у аддзеле народнай асветы, настаўнічаў. Прататыпамі многіх герояў твораў раманіста з'яўляюцца жыхары роднай вёскі. І менавіта ў Цімкавічах не так даўно прайшло свята, прымеркаванае да 110-годдзя з дня нараджэння Кузьмы Чорнага.**



Калісьці Гётэ сказаў, што каб сапраўды зразумець паэта, трэба наведаць яго радзіму. З мэтай прайсціся па роднай зямлі класіка беларускай літаратуры ў Цімкавічах сабраліся літаратары, навукоўцы, знакамітыя землякі Кузьмы Чорнага.

Удзельнікі святкавання наведалі вёску Боркі, дзе нарадзіўся Кузьма Чорны, усклалі кветкі да памятнага знака, што стаіць на месцы, дзе калісьці была хата пісьменніка, і да знака, устаноўленага да 100-годдзя з дня нараджэння празаіка. Свята ў Цімкавічах сталася своеасаблівым завяршэннем шэрага мерапрыемстваў, што ўжо былі праведзены з нагоды юбілею празаіка. Прайшоў фотапленэр па мясцінах Кузьмы Чорнага, па выніках якога ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ладзілася выстава. Адбыўся і конкурс малюнкаў да твораў К. Чорнага "Чалавек — гэта цэлы свет", што праводзіўся сумесна з аддзелам адукацыі Капыльскага раёна.

Лідзія Макарэвіч, дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры заўважыла: сённяшняя падзея — не проста свята, гэта працяг традыцыі, што была запачаткавана папярэднікамі, у першую чаргу Зінаідай Раманенкай, якая арганізавала літаратурны музей К. Чорнага ў Цімкавічах.

Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа НАН Беларусі Аляксандр Лукашанец адзначыў, што таленты такога ўзроўню, як Кузьма Чорны, нараджаюцца не часта. Нягледзячы на тое, што творчасці празаіка прысвечана шмат навуковых прац, ён яшчэ не ацэнены, як належыць. Вялікая роля гэтага пісьменніка не толькі ў тым, што ён узняў на новы ўзровень беларускую літаратурную мову, нацыянальную прозу, але і ў тым, што ён апяваў беларускі народ, родную прыроду.

У той жа час у прэзентацыі літаратурнай спадчыны пісьменніка ўсё яшчэ існуюць недахопы, на якія звярнуў увагу ўнук Кузьмы Чорнага перакладчык Мікола Рамануоўскі: адсутнасць сапраўды поўнага збору твораў класіка, вывераная паводле арыгінальных тэкстаў з узнаўленнем лакунаў. Было падкрэслена, што ўсё яшчэ не створаны слоўнік мовы Кузьмы Чорнага, цалкам не апублікавана ліставанне празаіка і пераклады, якіх ён зрабіў шмат: ад Аляксандра Пушкіна да Караля Ванэка.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: ля помніка Кузьме Чорнаму.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Павіншуем нашу моладзь!

**Трэці раз удзельнічалі ў гэтым творчым спаборніцтве маладыя артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, і зноў наша краіна была прадстаўлена на міжнародным узроўні не толькі годна, але і па-сапраўднаму ярка. Сведчаннем — важкі ўраджай конкурсных лаўраў, прывезены маладымі беларускімі талентамі.**



Міжнародны конкурс маладых артыстаў аперэты і мюзікла імя народнага артыста СССР Уладзіміра Курачкіна, дзе прадстаўнікі Беларусі выступаюць з нязменным поспехам, праводзіцца ў Екацярынбургу раз на два гады. Ці трэба тлумачыць, наколькі гэта прэстыжная імпрэза? Акцёр, рэжысёр, мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр Свярдлоўскага тэатра музычнай камедыі быў сапраўдным карыфеем г. зв. "лёгкага" жанру, стварыў яскравы тэатр-ансамбль, вядомы далёка за межамі Свярдлоўска (цяпер Екацярынбурга). Таму не дзіўна, што конкурс яго імя, хаця праводзіцца сёлета толькі трэці раз, ужо зрабіўся адметнаю з'явай у арт-прасторы не толькі Расіі, але і замежжа. Маладыя артысты маюць магчымасць не толькі паспаборнічаць у розных намінацыях ("аперэта", "мюзікл", "харэаграфічнае мастацтва"), але і абмяняцца творчым досведам, павысіць свой прафесійны ўзровень.

Як жа выглядае беларуская старонка ў пакуль яшчэ невялікім летапісе конкурсу? Лаўрэатамі самага першага з іх былі Дзмітрый Якубовіч (2-я прэмія ў намінацыі "мюзікл") і Юлія Шпілеўская (2-я прэмія ў той жа намінацыі). На другім вызначыліся Дзяніс Нямцоў (2-я прэмія ў намінацыі "мюзікл"), Кацярына Дзегцярова (2-я прэмія ў той жа намінацыі ды спецыяльны прыз упраўлення культуры Адміністрацыі Екацярынбурга), а таксама Ілона Казакевіч ды Аляксей Грыненка, якія сталі дыпламантамі.

А вось — вынікі 2010 года: Ілона Казакевіч і Аляксей Грыненка атрымалі кожны па 2-й прэміі ў намінацыі "мюзікл", артысты балета Рына Івакіры і Рыгор Крукоўскі, адпаведна, — 3-ю і 1-ю прэміі ў намінацыі "харэаграфічнае мастацтва". Дзмітрый Якубовіч, малады галоўны балетмайстар БДАМТ, які сёлета ездзіў у Екацярынбург як мастацкі кіраўнік беларускай творчай дэлегацыі, таксама не застаўся без узнагароды: журы ўручыла яму прэстыжную прэмію імя народнага артыста Расіі Анатоля Марэніча за ўнёсак у развіццё і захаванне жанру музычнага тэатра (як лепшаму партнёру конкурсу — а Дзмітрый быў партнёрам сваіх калег у пяці нумарах). "Такім чынам, — мяркуе Д. Якубовіч, — міжнароднае журы ацаніла і "камандную гульню" беларусаў, і яркую праграму з крэатыўным падборам нумароў, і памкненне максімальна тэатралізаваць сцэнічнае дзеянне". Дарэчы, мінулым разам такую статуэтку ўручылі легендзе расійскай аперэты Герарду Васільеву.

Нашы артысты, якія ездзілі на конкурс у Екацярынбург і раней, асабліва "камплексавалі" перад шматлікімі расійскімі канкурэнтамі (былі таксама моцныя спаборнікі з Украіны, Азербайджана). Потым заўважылі, што нехта імкнецца пераймаць у беларускай каманды колішнія пастановачныя ідэі, пазычаць сцэнічныя прыёмы, а нашы новыя арыгінальныя нумары, як і рэдкаснае, адмысловае рассянне, уменне самааддана танцаваць і спяваць, не збіваючы дыханне, уражваюць публіку, "зрываюць" апладысменты журы, выклікаюць увагу ў мясцовых СМІ... А ў выніку — прымалі віншаванні!

С. Б.

На здымку: галоўны балетмайстар БДАМТ Дзмітрый Якубовіч (у цэнтры), са статуэткай) і салісты Кацярына Дзегцярова, Аляксей Грыненка, Ілона Казакевіч, Рыгор Крукоўскі, Рына Івакіры.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

# Мы таксама ўбачым гэта

**Парыж, Лондан, Рым... Буйныя еўрапейскія сталіцы авацыямі віталі фенамен мастацтва пачатку ХХ стагоддзя — праект "Рускія сезоны", заснаваны славутым тэатральным дзеячам Сяргеем Дзягілевым у 1907 годзе. Праект, "сэрцам" якога стала балетная антрэпрыза С. Дзягілева, праіснаваў каля шасці гадоў, паспрыяўшы ўплыву рускага мастацтва на замежнае творчае асяроддзе і распаўсюджванню новых поглядаў на балет як на сімбіёз сучаснай музыкі, жывапісу і харэаграфіі.**



4 чэрвеня 1910 г. у Парыжы дзягілеўскі балет прадставіў спектакль "Шахеразада" на музыку М. Рымскага-Корсакава. А роўна праз сто гадоў, чэрвеньскімі днямі 2010-га, пра тую пастаноўку загаварылі ў Мінску, куды завітаў заснавальнік, ідэйны натхняльнік "Рускіх сезонаў XXI стагоддзя" Андрыс Ліепа. Выдатны танцоўшчык, рэжысёр, кліпмейкер, прадзюсер, старшыня праўлення Дабрачыннага фонду імя Марыса Ліепы, ён ажыццявіў мару свайго легендарнага бацькі пра адраджэнне справы С. Дзягілева: у 2007 годзе на парыжскай сцэне ўрачыста адкрыўся міжнародны гастрольны тур праекта "Рускія сезоны XXI стагоддзя".

Гастролі, якія ўжо ахапілі Францыю, Украіну, Расію і Латвію, сёлета пройдуць і ў нас. Упершыню на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі 22 кастрычніка адбудзецца паказ аднаактовых спектакляў "Шахеразада" на музыку М. Рымскага-Корсакава і "Жар-птушка" на музыку І. Стравінскага. Унікальнасць у тым, што яны ідуць у нязменным, як і 100 гадоў таму, выглядзе: з адноўленай харэаграфіяй М. Фокіна, рэканструяванымі арыгінальнымі дэкарацыямі і касцюмамі Л. Бакста і А. Галавіна. Дзеля аднаго гастрольнага вечара ў Мінск выпраўляцца 85 артыстаў (у тым ліку зоркі Марыінскага тэатра, "Крамлёўскага балета", Вялікага тэатра Расіі, сярод якіх Марыя Аляксандрава, Ілзе Ліепа, Мікалай Цыскарыдзе) ды два трэйлеры з дэкарацыямі і касцюмамі ды з работамі мастакоў-сцэнографаў Ганны і Анатоля Нежных — для выстаўкі ў тэатральным фае. "Рускія сезоны XXI стагоддзя" — праект прыватны, яго арганізатары не могуць адразу прапанаваць мінскай публіцы больш працяглыя гастролі. Але калі першы візіт пройдзе паспяхова, супрацоўніцтва паміж фондам Марыса Ліепы і НАВТ оперы і балета Беларусі працягнецца — гэта пацвярджае адпаведны пратакол пра намеры, падпісаны кіраўнікамі тэатра і праўлення фонду.

Андрыс Ліепа распавёў пра рэканструкцыю спектакляў дзягілеўскай антрэпрызы — скрупулёзную працу з дапамогай старых здымкаў, малюнкаў, згадак відавочцаў, эпісталярнай спадчыны, даўняй аматарскай кінахронікі. Калі ён згадваў знаныя імёны: С. Юрок, В. Ніжынскі, Л. Бакст, І. Стравінскі, — міжволі думалася, што ўсе яны нейкім чынам, праз глыбокія сямейныя карані, спрычыненыя і да беларускай зямлі... У сыходзе В. Елізар'ева з тэатра наш госць не ўбачыў нічога надзвычайнага і трактаваў гэта як пэўны перыяд, уласцівы жыццю і кожнага творчага чалавека, і кожнага тэатра (прыгадаўшы сыход і вяртанне Ю. Грыгаровіча, прыклады з М. Барышнікавым, сітуацыі ў тэатрах Італіі). "Вечнага нічога няма: ні на зямлі, ні ў тэатры. А тое, што з Елізар'ева зняты адміністратыўныя клопаты, палягчае яму жыццё, дае свабоду ставіць уласныя спектаклі", — падкрэсліў А. Ліепа, дадаўшы, што плануе пагаварыць з В. Елізар'евым наконт супрацоўніцтва.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: намеснік генеральнага дырэктара НАВТ оперы і балета Беларусі Валерый Гедройц і народны артыст Расіі Андрыс Ліепа.

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

У мінскай бібліятэцы № 5 адбылася сустрэча з музыкай і паэзіяй. Перад наведвальнікамі з новай праграмай выступілі паэт Юрась Нераток і гітарыст Юрась Шышко. У вечарыне таксама прымалі ўдзел паэты Юрый Сапажкоў, Валерый Грышкавец і Вольга Норына. Добра вядомы чытачам аўтар зборнікаў "Закуцце", "Фотаальбом" і іншых паэт і празаік Юрась Нераток выступіў на гэты раз у якасці барда ў тандэме з не менш таленавітым гітарыстам Юрасём Шышко. Маршрут у краіну Паэзіі Юрась прадумаў цікавы. Карыстаючыся часам такім прыёмам, як кавер-версія (калі да знаёмай мелодыі іншага кампазітара пішуцца свае словы), ён заваяваў безумоўныя сімпатыі падлеткаў адсутнасцю павучальнай інтанацыі.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

У газеце Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў "Народная трыбуна" цёпла адзначылі 60-гадовы юбілей пісьменніка, лаўрэата прэміі Беларускага саюза журналістаў Уладзіміра Сітухі, які зараз працуе ў гэтым выданні намеснікам галоўнага рэдактара. Сёння У. Сітуха вядомы як аўтар шматлікіх кніг, якія кранулі сэрцы многіх людзей: "Сваты", "Акрылены верай", "Споведзь пра Бядулю", "Скакуны", "Генералы Зямлі", "Званы над Шкловам", "Аб Веры, Вернасці і Вечнасці", "Возвышенно сердце стучит"… Многія з вершаў паэта пакладзены на музыку прафесійнымі кампазітарамі і загучалі песнямі. Юбіляр і зараз вельмі энергічны і малады. У выдавецтвах рыхтуюцца да выхаду ў свет новыя творы празаіка і паэта.

Аляксандр ЮДЗІЦКІ

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францыска Скарыны адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная творчасці вядомага ў Еўропе паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, лаўрэата Прэміі Гердэра Алеся Разанава. Канферэнцыя прымеркавана да 40-годдзя выхаду першай кнігі пісьменніка — "Адраджэнне" (першапачатковая назва "Адрачэнне"). Дацэнт кафедры беларускай літаратуры ГДУ А. Мельнікава звярнула ўвагу прысутных на яскравыя дамінанты творчасці паэта. Пра гады вучобы з Алесем Разанавым у БДУ успамінаў паэт В. Ярац. У рамках канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі Івана Штэйнера "Криница, из которой пил святой: Философия поэзии Алеся Разанова" (Мінск, 2010). Доўгачаканым, а таму яшчэ больш значным, стала выступленне самога Алеся Разанава, які з задавальненнем адказваў на пытанні прысутных.

Ірына БАЖОК

У Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў адбыўся рэспубліканскі семінар спецыялістаў па фальклоры абласных і раённых метадычных цэнтраў, арганізатараў традыцыйных свят і абрадаў па тэме "Рэгіянальныя фальклорныя традыцыі каляндарных свят і абрадаў беларусаў і іх выкарыстанне ў сацыякультурнай дзейнасці". Па выніках семінара праводзіўся "круглы стол" "Выкарыстанне лакальных святочных традыцый у сучасных гарадскіх традыцыйных святах".

Ганна БАСОРЫНА

# У. Караткевіч — гумарыст, мастак? Так!

## «Вожык» № 2



Альманах сатыры і гумару "Вожык", які пабачыць свет у ліпені, будзе звычайным і незвычайным адначасова. Звычайны (у лепшых сваіх традыцыях) тым, што літаральна ўсе яго старонкі будуць напоўненыя дзе мяккім, добразычлівым гумарам, дзе колкай сатырай, дзе добрай усмешкай, дзе тонкай іроніяй… У нумары чытач знойдзе знаёмыя вожыкаўскія рубрыкі, але змест некаторых яго здзівіць, дазволіць па-новаму зірнуць на звычныя факты і падзеі.

Уладзімір Караткевіч, як вядома, валодаў шматгранным літаратурным талентам. У любым жанры ён не меў сабе роўных. А быў яшчэ, дзякуючы прыродным здольнасцям, і выдатным педагогам, акцёрам, апавядальнікам, спеваком. Любіў гумар і сам выпраменьваў яго. Пісаў пародыі, жарты, экспромты…

Але не ўсе ведаюць, што Караткевіч быў яшчэ і выдатным мастаком. Ён цудоўна валодаў лініяй і кампазіцыяй, мог лёгка некалькімі штрыхамі перадаць характар чалавека, часам мякка, часам гратэскна-падкрэслена, а то і падколіста. Любіў маляваць партрэты не толькі сяброў, але і сібе, зразумела, дадаючы да вядомых рысаў і шмат смешнага.

Не без усмешкі сузіраеш аўташарж паэта ў лісце да рэдактара сваёй першай кнігі Антона Бялевіча з наступным вершаваным подпісам:

Я — аўтар кашмарных
паэм і санетаў,
Мне людзі заплоцяць
бяссмерцем за гэта.

Самага рознага кшталту малюнкі, ілюстрацыі, аўтапартрэты, шаржы слыннага пісьменніка, 80-годдзе з дня нараджэння якога мы сёлета адзначаем, змогуць убачыць чытачы "Вожыка" ў другім нумары ў рубрыцы "Класікі смяюцца".

У той жа рубрыцы з нагоды 90-гадовага юбілею выдатнага гумарыста, самага вясёлага нацыянальнага пісьменніка Андрэя Макаёнка ўзгадваецца адзін з прыпамінаў яго найлепшага сябра Івана Шамякіна. Галоўны камедыёграф краіны ўмеў не толькі працаваць. Любіў Андрэй Ягоравіч і добры вясёлы адпачынак, не праміnaў выпадку, каб рассмяшыць, а то і разыграць сваіх сумнаватых калег…

Асаблівай увагі заслугоўвае 100-гадовы юбілей Уладзіміра Корбана, шматгадовага галоўнага рэдактара "Вожыка". Ён меў сапраўды яркі дар сатырыка, які найбольш праявіўся ў жанры байкі. І хоць з часу, калі пісаліся яго байкі, мінулі дзесяцігоддзі і шмат што змянілася ў краіне, творы Уладзіміра Корбана жывуць і сёння, а гучаць нібы толькі што напісаныя.

Альманах прапануе чытачу вершаваныя падборкі вядомых гумарыстаў, даўніх вожыкаўцаў Б. Хізауца, М. Чарняўскага, М. Мірановіча, В. Макарэвіча, цэлы россып пародый В. Жуковіча, М. Пазнякова, У. Ермалаева, В. Кунцэвіча, М. Кутаса, празаічныя творы розных жанраў — апавяданні з цыкла "Дунілавіцкія былі" Ю. Зарэцкай, гумарэскі М. Пападзеда, мініяцюры "Смешна — не грэшна" В. Вольскага, гумарыстычныя апавяданні І. Стадольніка, пераклады з курдскай (апавяданне Г. Чарказяна) і ўкраінскай моў (байкі П. Глазавога і П. Грышко) і шмат іншага.

Юрый ВЯРБІЦКІ

# Ад шчодрага сэрца

**Традыцыі мецэнацтва і дарэння існавалі ў нашай краіне стагоддзямі і працягваюцца па сённяшні дзень. Пацвярджэннем гэтаму служыць той факт, што за перыяд з 2006 па 2010 гады ў бібліятэку Палескага дзяржаўнага універсітэта паступіла ў якасці дару 1630 экземпляраў кніг.**

Сягоння бібліятэка самай маладой ВНУ ў Палескім рэгіёне мае універсальны фонд па розных галінах ведаў. З адкрыццём новых спецыяльнасцей бібліятэка збірае, захоўвае і пастаянна папаўняе свой фонд выданнямі па эканоміцы, фінансах, банкаўскай справе, сельскай гаспадарцы, біятэхналогіі, хіміі, праве, псіхалогіі, турызме і інш.

Немалаважнае значэнне надаецца збіранню і сістэматызацыі літаратуры па адраджэнні нацыянальнай спадчыны. Цікавасць да мінулага, да сваіх каранёў выклікае неабходнасць як мага больш назапасіць інфармацыі па краязнаўстве і данесці яе да студэнтаў. Супрацоўнікі паставілі мэту збіраць дакументы аб рэгіёне, набываць звесткі пра прамысловасць, экалогію, сельскую гаспадарку, геаграфічнае становішча і прыродныя ўмовы Палесся, развіваць цікавасць да беларускай літаратуры праз лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

У пошуку патрэбнай літаратуры было вырашана звярнуцца да грамадскіх арганізацый, вучоных і аматараў-краязнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў.Першым, хто адгукнуўся на зварот бібліятэкі, быў вядомы беларускі вучоны, літаратуразнаўца Адам Мальдзіс. Яго каштоўны дар з навуковых і навучальных выданняў, літаратурна-крытычных матэрыялаў, мастацкіх твораў, а таксама манаграфій, аўтарэфератаў дысертацый, перыядычных выданняў налічвае каля 300 экземпляраў.

Усе падораныя кнігі маюць паметку "З кнігазбору Адама Мальдзіса". На некаторых з іх ёсць экслібрысы. Кнігі з аўтографамі і дарчымі надпісамі аўтараў маюць не толькі мемарыяльную каштоўнасць, але і сваю гісторыю. У нашай бібліятэцы яны клапатліва збіраюцца для асобнай калекцыі "Аўтограф".

Мы вельмі ўдзячны паважанаму Адаму Мальдзісу за суправаджальныя надпісы: "Палескаму універсітэту ў Пінску — вы пачатак гуманітарнай кніжнай справы. Аўтар А. Мальдзіс.

Вялікую цікавасць прадстаўляюць выданні з дарчымі надпісамі вядомых празаікаў і паэтаў З. Яцкевіча, Дз. Бугаёва, М. Махнача, М. Тычыны, У. Калесніка, І. Чыгрына, М. Кенькі, К. Хромчанкі, Б. Сачанкі, М. Арочкі, І. Штэйнера, С. Цярохіна, В. Сакалоўскага і інш.

Чытачам, якія захапляюцца гістарычным мінулым, будуць карысныя кнігі: Мальдзіс А. "Як жылі нашы продкі ў XVIII стагоддзі", Тарэнка А. "Недозволенная память. Западная Беларусь в документах и фактах", "OS-Тарбайтеры. Принудительный труд белорусского населения в Австрии", "…Пачуць, як лёсу валяцца муры. Памяці Генадзя Кісялёва", Купчын Н. "Развитие естествознания в Белоруссии: середина XIX — нач. XX в.", Казлоў Л. "Падарожжы Мікалая Радзівіла Сіроткі" і іншыя.

Аматары беларускай паэзіі змогуць бліжэй пазнаёміцца з паэтычнай спадчынай Я. Янішчыц, Н. Мацяш, В. Іпатавай, С. Грахоўскага, Н. Гілевіча, М. Купрэева, А. Лойкі, Р. Барадуліна, М. Арочкі ды іншых, а таксама з перыядычным выданнем "Кантакты і дыялогі", рэдактарам якога А. Мальдзіс быў з 1996 г.

Дзякуючы А. Мальдзісу, фонд бібліятэкі папоўніўся выданнямі на замежных мовах: польскай, англійскай, латышскай. Усе атрыманыя кнігі адзначаны спецыяльным штампам "Дар", а на тытульных лістах многіх выданняў кожны чытач змажа ўбачыць імя таго, хто падарыў кнігі.

Дзякуючы выставе "З хатняга архіва — на бібліятэчную паліцу" чытачы змогуць ацаніць унікальны кніжны дар Адама Мальдзіса.

Кнігі, падораныя вядомым беларускім вучоным, зоймуць належнае месца ў нашай бібліятэцы і стануць для выкладчыкаў і студэнтаў Палескага дзяржаўнага універсітэта не толькі неабходнай інфармацыйнай крыніцай, але і выдатным праваднiком у свет беларускай гісторыі, культуры і літаратуры.

Святлана МАКАРЭВІЧ

**Нядаўна адбыўся абласны форум дзіцячых і маладзёжных ініцыятыў "Сваімі справамі мы моц краіны прымнажаем". Арганізатарамі выступілі ўпраўленне адукацыі Мінаблвыканкама і абласны вучэбна-метадычны кабінет. На мерапрыемства было запрошана 230 вучняў школ Мінскай вобласці. Пачынаўся форум у Сенніцкім доме культуры, дзе ўдзельнікі мелі магчымасць задаваць пытанні, абмяркоўваць тэмы, якія хвалююць сёння маладое пакаленне.**



# Паляцелі галубы ў Бараўляны

Другая частка праходзіла ў Азярцоўскай сярэдняй школе. Тут працавалі дзесяць секцый пад агульнай назвай "Вясёлка талентаў". Літаратурную гасцёўню "Спроба пяра" для вучняў старэйшых класаў правяла начальнік аддзела арганізацыйна-метадычнага забеспячэння якасці адукацыі Мінскага дзяржаўнага абласнога вучэбна-метадычнага кабінета Зінаіда Булахава. Кожны з юных удзельнікаў ужо спрабуе свае сілы на ніве літаратуры. І першыя поспехі ёсць. Перамогі ў конкурсах, удзел у буйных мерапрыемствах, выступленні на творчых імпрэзах і пасяджэннях літаратурных суполак.

Падчас літаратурнай гасцёўні адбылася прэзентацыя творчасці юнай паэтэсы Кацярыны Баблеўскай. Сёлета Кацярына скончыла 9 клас Заслаўскай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы. Нядаўна маладая творца стала лаўрэатам І ступені рэспубліканскага конкурсу "Юныя таленты Беларусі". Падчас прэзентацыі Каця чытала свае вершы, выконвала песні. Удзельнікі літаратурнай гасцёўні даведаліся, што юная паэтка піша пра родны горад Заслаўе, прысвячае творы матулі і блізкім, расказвае пра школу, настаўнікаў і сяброў. Ёсць у творчай скарбонцы філасофскія вершы і, зразумела, не абмінаецца ўвагай тэма кахання.

Таксама перад школьнікамі выступіла маладая пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая.

Завяршальным акордам творчай гасцёўні стала акцыя "Лісты дабрыні". Кожны з удзельнікаў атрымаў папяровага голуба, на якім напісаў добрыя словы і пажаданні. Гэтыя лісты будуць удручаны маленькія пацыенты Рэспубліканскага дзіцячага анкалагічнага цэнтра, а таксама ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія знаходзяцца цяпер на лячэнні ў Бараўлянскім шпіталі.

Кася СТАСЕВА

На здымку: юная паэтка Кацярына Баблеўская.

Фота аўтара

**Сучасны цырк стаў неад'емнай часткай жыцця любой краіны. Яго любяць людзі ўсіх узростаў. Менавіта там мы можам убачыць чарадзейства прафесіяналаў сваёй справы. Дэвіз цырка — "зацсёды здзіўляць", што і адбываецца на кожным прадстаўленні. Планавалася, што пасля рэканструкцыі Беларускі дзяржаўны цырк адчыніць свае дзверы сёлетняй восенню. Якім ён будзе? Прафесійныя сакрэты чытачам "ЛіМа" адкрывае галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага цырка, лаўрэат міжнародных конкурсаў Сяргей Бандарчук.**

# ...І цуды на манежы

— Памяшканне зачынена на рэканструкцыю з красавіка мінулага года. Якія тэхнічныя навінкі мы ўбачым у абноўленым цырку?

— Рэканструкцыя — працэс досыць складаны. Дай Божа, будаўнікам завяршыць тое, што яны робяць, таму што ўсе тэхнічныя прылады манежа, купала робяцца за мяжой, і мы спадзяёмся, што праектанты і выканаўцы вытрымаюць тэрміны. Што да нашых будаўнікоў, то яны вядуць ужо завяршальныя работы, усё вельмі прыгожа, праект грандыёзны, на самай справе гэта будзе самы лепшы і самы новы цырк не толькі ў Еўропе, але і ў свеце.

— Прэм'ера Белдзяржцырка "Шчаўкунчык" адбылася ў Паўднёвай Карэі, яна мела грандыёзны поспех. А хутка беларускі глядач зможа ўбачыць яго на манежы "адрэстаўраванага" беларускага цырка. Раскажыце пра спектакль.

— "Шчаўкунчык" — гэта цыркавы спектакль, які паказвалі ўжо 37 разоў у Паўднёвай Карэі. Ён створаны сумесна з Карэйскай кампаніяй, і ўмовы праекта прадбачаць прэм'еру ў Мінску. Але справа ў тым, што прэм'ера залежыць ад здачы нашага памяшкання пасля рэканструкцыі, і "Шчаўкунчык" павінен быць прымеркаваны да навагодніх святаў, да Каляды. Сёлета, калі мы адчыніем наш цырк, хутчэй за ўсё гэта будзе не "Шчаўкунчык", а міжнародны праект з выкарыстаннем шматлікіх цыркавых жанраў, каб максімальна паказаць усе магчымасці манежа і ўсяго цырка.

— Хто прымаў удзел у спектаклі?

— У спектакль уключаны цыркавыя нумары Белдзяржцырка, цырка Юрыя Нікуліна, у ім прымаюць удзел саліcты балета харэаграфічнага каледжа, артысты з Амерыкі. Планавалася далучыць да праекта і шмат заходнееўрапейскіх артыстаў.

Самае незвычайнае ў сцэнарыі — менавіта змяшэнне жанраў класічнага балета і цырка. Мы выдатна ведаем пра шыкоўную кітайскую праграму "Лебядзінае возера", якая прайшла ўжо ва ўсёй Еўропе, Амерыцы і Азіі. Але справа ў тым, што класічных танцораў балета там практычна няма, іх адзінкі, а ў нас у спектаклі ўдзельнічае балетная трупа ў складзе каля 30 чалавек.

— У асноўным артысты выступаюць без страхоўкі, але ж кожны цыркавы нумар мае вялікую долю рызыкі, чаму ж у складаных нумарах усё-такі назіраецца тэндэнцыя не выкарыстоўваць страхоўку?

— Такая тэндэнцыя на самай справе існуе, але трэба разумець, што ёсць такія нумары, у якіх немагчыма працаваць са страхоўкай, яна перашкаджае, не дазваляе выконваць якія-небудзь трукі, нават падчас рэпетыцый. Артыст сам пачувае сябе пераможцам і рэкардсменам, калі трук выконваецца чыста, без нейкай дадатковай падтрымкі. Чалавек павінен выпрацаваць у сабе смеласць, рашучасць. Таму праца без страхоўкі найперш выклікае павагу і захапленне не толькі калег, але і гледачоў.

— Мы ўбачым вас як галоўнага рэжысёра ў праграме новага цырка?

— Бясспрэчна. Вы мяне ўбачыце не толькі ў якасці рэжысёра, а і ў якасці артыста. Мы плануем правесці гастролі ў Расійскай Федэрацыі, у Афрыцы і ўвосень паехаць у Карэю. І славім мы не толькі імя цырка, галоўнае, што пра нашу краіну даведваюцца ўсё больш і больш людзей. А гэта нас можа толькі радаваць.

Уладзіслаў ШЫКУРАЎ

У сучаснай літаратурнай прасторы мала людзей, сапраўды апантаных ідэяй узбагачэння беларускай дзіцячай паэзіі перакладнымі творамі сусветнай літаратуры. Ды і сама літаратура для дзяцей зараз перажывае не лепшыя часы. Наш суразмоўца — кандыдат педагагічных навук, выкладчык англійскай мовы і вопытны перакладчык дзіцячай паэзіі, які, па яго словах, "перакладае шмат, ды рэдка друкуецца", Юрый Маслаў. Хоць працуе Юрый Усеваладавіч з рускай мовай, яго досвед можа быць карысны і перакладчыкам на беларускую мову.

# Маленькі чытач: інтэлектуальныягарызонты



— Ці даўно вы займаецеся перакладам твораў для дзяцей? Што стала тут галоўнай прычынай?

— Пачаў перакладаць дзіцячую паэзію ўжо даволі даўно, яшчэ калі працаваў у школе настаўнікам англійскай мовы. Спачатку цікавымі з пункта гледжання спробы перакладу былі творы, уключаныя ў вучэбную літаратуру, пазней інтарэсы пашырыліся. Зараз жа мяне цікавіць англамоўная дзіцячая паэзія розных аўтараў з розных краін. У працэс перакладу спачатку я ўключаў і сваіх вучняў, так атрымліваліся неблагія сумесныя праекты.

— Якімі рысамі характару, на ваш погляд, павінен валодаць перакладчык дзіцячай паэзіі?

— У ідэальным свеце, дзе не трэба перакладаць дзеля грошай, дзе пераклад робіцца ў адпаведнасці з поклічам душы і сэрца, а не па заданні, перакладчык заўсёды падсвядома або свядома выбірае сугучны сабе матэрыял. І па сутнасці, добры перакладчык заўсёды валодае тымі рысамі характару, якімі валодае і аўтар, чые вершы ён перакладае. Калі аўтар вясёлы, жыццярадасны, аптымістычны, такім жа павінен быць і перакладчык. У адваротным выпадку як вынік працы атрымаецца хутчэй за ўсё толькі бледная копія, а не перакладны твор, набліжаны да арыгінала.

— Пісаць вершы для дзяцей — справа нялёгкая. Перакладаць іх гэтак жа складана?

— Так, гэта адназначна складана. Па той прычыне, што перакладчык любой паэзіі з'яўляецца ў нейкай меры сааўтарам, і пра ступень яго ўдзелу ў працэсе стварэння верша можна весці бясконцыя спрэчкі. Нявырашаным лічыцца і пытанне свабоды перакладчыка ў сваёй працы. Што да дзіцячай паэзіі, тут ёсць некалькі спецыфічных момантаў. Перакладчык працуе з рознымі мовамі, і калі ён хоча зрабіць дакладны і літаральны пераклад, нічога добрага з гэтага не атрымаецца: структура моў розная. Таму тое, што па-англійску гучыць добра, у літаральным перакладзе добра выглядаць не будзе. Трэба шукаць іншы шлях: захаваць дух арыгінала і, па магчымасці, яго матэрыяльную абалонку, а яшчэ дадаць тыя рысы мовы перакладу, якія зробяць новы па сутнасці твор часткай культуры, што яго ўспрымае. Добры пераклад з часам стане такой часткай, і гэтаму ёсць шмат прыкладаў (пераклады С.Маршака, К.Чукоўскага). Але для пачатку верш трэба зрабіць перш за ўсё чытэльным, і гучаць ён павінен гэтак жа весела і цікава, як арыгінал.

— Англійская дзіцячая кніга і беларуская кніга для дзяцей — ці ёсць прынцыповая розніца?

— Па-першае, колькасць дзіцячых кніг, што выходзяць на англійскай мове, не супастаўляльная з колькасцю, што маем мы. Сёння на Захадзе пануе культ дзяцінства. На рынку шмат дзіцячых кніг для розных узроставых катэгорый, напісаных з рознымі мэтамі: адукацыя, сямейнае або самастойнае чытанне, стымуляцыя ранняга развіцця. У нашым выпадку гэта яшчэ не так. Да таго ж у англамоўным свеце дзіцячая кніга пішацца з разлікам на дакладную мэтавую аўдыторыю: маленькіх школьніц, дзяўчынак 12—13 год, якія маюць свае спецыфічныя праблемы. Ёсць аўтары, што пішуць менавіта для іх, таму рынак кніг дакладна сегментаваны.

— Якога дзіцячага паэта вы можаце назваць любімым?

— Любімых аўтараў многа, але ёсць адзін, якога ў Беларусі ведаюць мала, хоць і мае ён прозвішча з беларускім гучаннем. Гэта вельмі вядомы дзіцячы амерыканскі паэт, ужо амаль класік, які выдаў шмат кніг, Джэк Прылуцкі. Зараз яму семдзесят, але нягледзячы на ўзрост, ён піша вельмі вясёлыя, смешныя дзіцячыя вершы, пабудаваныя на гульні слоў, гумары і на ўсіх магчымых спосабах стварэння новага свету для дзяцей, якія ўмеюць чытаць між радкоў.

— Якія парады вы хацелі б даць маладым перакладчыкам?

— З вышыні свайго невялікага перакладчыцкага вопыту хачу адзначыць наступнае: сябры, калі пачынаеце перакладаць дзіцячую паэзію, спачатку падумайце, дзеля чаго вы гэта робіце. Затым вырашыце, наколькі добра ў вас атрымліваецца проста напісаць штосьці зразумелае дзецям. І самае галоўнае, паспрабуйце "злавіць хвалю" крэатыўнасці, гумару, "жывапіснай прастасці" ў адносінах з мовай — менавіта гэта служыць асновай добрай дзіцячай паэзіі. Яна павінна пашыраць межы мовы і інтэлектуальныя гарызонты чытача. А гэта зрабіць не проста, бо разам з забаўленнем, дзяцей трэба яшчэ і вучыць. Далёка не ўся англамоўная паэзія гэта ўмее. Наша дзіцячая літаратура традыцыйна так рабіць умела, але часам вельмі прамалінейна, занадта дыдактычна. Трэба пазбягаць і адкрытага дыдактызму, і "заігрывання" з чытачом.

— Ці маглі б нашы пісьменнікі чамусьці павучыцца ў сваіх замежных калег?

— Увогуле пісьменнікі і паэты заўсёды вучацца адзін у аднаго. Калі чалавек прафесійна штосьці піша, ён жыве ў віртуальнай суполцы сваіх калег-пісьменнікаў, для яго гэта і прафесія, і жыццё, і вучоба. Англамоўным аўтарам можна павучыцца ў нас дабрыні і глыбіні разумення чалавечай натуры. Нашым жа пісьменнікам у замежных калег трэба пераймаць прыгажосць зносінаў з мовай, усведамленне таго, што чалавек — істота недасканалая. Увогуле, павучыцца можна многаму. Але, напэўна, дзеяслоў вучыцца ў дадзеным выпадку не зусім правільны, таксама як і дзеяслоў пераймаць. Нічога пераймаць не трэба, трэба рабіць так, як у нас заўсёды робіцца. Іншая справа, што трэба выходзіць на больш шырокія культурныя абагульненні: не спыняцца на з'явах роднай культуры, больш вольна выкарыстоўваць рэаліі іншых культур: тэхніку напісання вершаў, культурныя асаблівасці жыцця ў той ці іншай краіне. Такім чынам беларуская паэзія нічога не страціць, а толькі ўзбагаціцца.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА

# Казка з вуснаў акцёра, спевака, палітыка



***Прыгадваецца "круглы стол" "Адраджэнне дзіцячага чытання", які прайшоў у межах Вербнага кірмашу. У абмеркаванні актуальных пытанняў літаратуры для дзяцей прынялі ўдзел пісьменнікі, выдаўцы, бібліятэкары з Беларусі і Расіі. Кожны з гасцей выказаў уласны пункт гледжання на праблему, прапанаваў шляхі яе вырашэння.***

Ганна Храпіцкая, маці дзевяцярых дзяцей, звярнула ўвагу на тое, што сёння існуе шмат рознай дзіцячай літаратуры, аднак многа добрых кніг застаецца па-за ўвагай чытача. Праблемай рынку дзіцячай літаратуры яна бачыць недахоп новых выданняў беларускіх народных казак, казак іншых народаў.

Цікавасць да казкі не знікне, падкрэсліў Дзмітрый Харчанка, дырэктар выдавецтва, але сёння не кожнаму выдаўцу пад сілу выдаць зборнік твораў гэтага жанру з якаснымі ілюстрацыямі. Да таго ж, дзіцячая кніга часта не мае адраснасці на пэўны ўзрост. Важна, каб самім маленькім чытачам было цікава знаёміцца з кнігай. Заўважаем, што страчваецца культура пісання і малявання для дзяцей: самі аўтары недастаткова выхаваны для таго, каб пісаць дзіцячыя творы, а мастакі развучыліся маляваць для гэтай аўдыторыі.

Праблему дзіцячага чытання Ігар Палевікоў, рэдактар выдавецтва Свята-Елізавецінскага манастыра, бачыць яшчэ і ў тым, што дарослыя не ўмеюць чытаць услых. Важна, каб дзіцячая кніга чыталася выразна, з інтанацыяй.

Алена Міхаленка, дзіцячая пісьменніца, выказала занепакоенасць тым, што з-за адсутнасці ў дзяцей цікавасці да чытання ў школу прыходзяць вучні з дрэнна развітым маўленнем і ўяўленнем. Разам з чытаннем правільнай кнігі ў дзяцей фарміруецца культура, мастацкі густ. У той жа час важна не "перакарміць" дзяцей кнігамі: кожны твор трэба чытаць у свой час.

Наводзіць на роздум сказанае Валянцінай Місевіч, намеснікам дырэктара Мінскай гарадской цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк. Асаблівую цікавасць да кнігі паказваюць вучні 4—5 класаў, пры гэтым цяжка зразумець прынцыпы, у адпаведнасці з якімі яны выбіраюць творы для чытання. Дзеці 11—12 гадоў аддаюць перавагу творам у жанры фэнтэзі. Беларуская літаратура не запатрабавана ў маленькіх чытачоў. На паліцах стаяць добрыя і якасна аформленыя кнігі, але іх не чытаюць, бо нічога не ведаюць ні пра аўтараў, ні пра іх творчасць. У той час як кнігі нізкага гатунку, але разрэкламаваныя, карыстаюцца папулярнасцю.

Аліна Дальская, шэф-рэдактар дзіцячай літаратурнай серыі "Насця і Мікіта", падзялілася ўласным вопытам папулярызацыі дзіцячай кнігі. Выдавецтва часопіса «Фама» акрамя выдання новай серыі кніг праводзіць акцыю «Зоркі чытаюць дзецям»: збіраецца 20-25 дзяцей, запрашаецца знакаміты акцёр, спявак, палітык са станоўчым іміджам, які проста ўслых чытае дзецям казкі. Такія праграмы маюць шырокі рэзананс, і ў выніку ад іх больш карысці, чым ад прагляду тэлеперадач.

Прычыну адсутнасці цікавасці да чытання Барыс Ганага, аўтар многіх кніг для дзяцей, бачыць у змене прыроды чалавека. Папярэдняя цывілізацыя была заснавана на слове, на сутворчасці вобраза разам з аўтарам. Зараз жа, у час мультфільмаў, дзеці карыстаюцца гатовай карцінкай. Сапраўдная ж мэта чытання — разумець аўтара на ўзроўні думкі. Важную ролю адыгрывае і інтанацыя, з якой чытаецца твор. Як варыянт выхаду з гэтай сітуацыі Барыс Аляксандравіч бачыць аўдыёкнігу: твор, выразна прачытаны, правільна аформлены музычна, можа спрыяць эстэтычнаму выхаванню дзяцей.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: пісьменнік Барыс Ганага.

Фота аўтара

# Далучэнне да святла

У жыцці добрае і дрэннае пераплецена нябачнымі ніцямі. Яшчэ раз я пераканаўся ў гэтым, калі ўпершыню сустрэўся з Надзеяй Лебедзевай — абаяльнай, энергічнай жанчынай.

Пазнаёміліся мы на адным з літаратурных пасяджэнняў у бібліятэцы прыватнага унітарнага прадпрыемства "Элект" грамадскага аб'яднання беларускага таварыства інвалідаў па зроку, дзе яны вырабляюць розныя электрычныя прыстасаванні. І яшчэ некаторыя з іх пішуць і друкуюць свае вершы, як, напрыклад, Мікалай Агееў і Галіна Пруднікава.

Дык вось тады заўважылася, што хворыя людскія вочы нібыта свецяцца і цяплеюць ад добразычлівасці, прыязнага настрою і не думаюць паддавацца змроку, далучаючыся да святла і дабрыні словам, узыходзячым з глыбіні душы.

Сем гадоў дапамагала ім рабіць гэта жанчына, пра якую ідзе размова, і тады, калі працавала тут бібліятэкарам, і цяпер у якасці валанцёра сваёй добрай волі. Сама Надзейка, па яе ж словах, яшчэ з дзяцінства дрэнна бачыла — вялікая блізарукасць. І ці магла яна ведаць тады, што праз дзесяткі год жыццё звядзе яе з невідушчымі людзьмі?

Жыццё ж распарадзілася менавіта так. Блізарукая дзяўчынка змагла скончыць бібліятэчны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага і пачала працаваць у Віцебскай абласной бібліятэцы, пазней — спецыялістам па бібліятэках абласнога ўпраўлення культуры.



Крыху забягаючы наперад, яна скажа: "І на пенсіі буду прыходзіць сюды. Чым змагу, дапамагу людзям, з якімі пасябравала і без якіх не ўяўляю далейшага жыцця..."

Словы яе спраўдзіліся. А тады на "Элекце" было 175 хворых па зроку. Большасць з іх наведвала сваю бібліятэку. Часта сама Надзея Максімаўна ішла да чытачоў, каб дапамагчы, скажам, давесці ім да ладу камп'ютэр або правесці да прыпынку невідушчага і адчуць на сваёй руцэ ўдзячную руку.

Ну якія чытачы са сляпых, — скажа нехта. Не кажыце так неабачліва: чытачы яны сапраўдныя, дасведчаныя, са сваімі густамі і прыхільнасцямі. Апрача чытання па кропкавай сістэме Брайля, для іх паслуг запісы беларускіх і рускіх класікаў — увесь Мележ, Шамякін, Быкаў. Побач з цікавымі дэтэктывамі слухаюць яны Дастаеўскага, Астроўскага і Асадава. Апошні, як вядома, таксама меў дрэнны зрок і пісаў цудоўныя вершы.

— Увогуле, — зазначае жанчына, — такой "касетнай" і "дыскавай" літаратуры ў бібліятэцы было закуплена на мільёны рублёў. Меліся падручнікі сістэмы Брайля, за якімі прыходзілі маладыя, каб пакарыстацца імі ў будучай вучобе. А з якой вялікай увагай слухалі яны землякоў-паэтаў Тамару Краснову-Гусачэнку, Вольгу Русілку, Алеся Шпыркова. Да слова, ён — інвалід па зроку, у апошні час не бачыць, але піша вершы, рыхтуе чарговы паэтычны зборнік. І не без дапамогі такіх, як Надзея Лебедзева.

Так, сляпы чалавек — незвычайны чытач. І бібліятэкару трэба стаць для яго і псіхолагам, і настаўнікам, і дарадцам, і амаль маткай роднай. Мая суразмоўца валодае ўсімі патрэбнымі якасцямі.

Жывая паўсядзённая сувязь адбывалася паміж невідушчымі чытачамі і бібліятэкарам падчас перадач мясцовай радыёкропкі, калі ў ролі дыктара ці, хутчэй, суразмоўцы выступала яна, расказвала навіны, рабіла агляды новай літаратуры, дапамагала выканаць тую ці іншую просьбу падапечных.

Сёння сваёй бібліятэкі на "Элекце" няма. Не ўпэўнены я, што тут робіцца тое, што рабілася пры Надзеі Максімаўне. А вось што былы бібліятэкар працягвае трымаць сувязь са сваімі падапечнымі, ведаю дакладна. Яна — актывіст інфармацыйнага цэнтра "Залаты ўзрост", што працуе на базе бібліятэкі імя Крылова ў Віцебску. Тут ладзяцца сустрэчы з псіхолагамі, урачом-валеолагам, чытачы навучаюцца працаваць з камп'ютэрам. А для тых, хто не мае магчымасці наведаць бібліятэку самастойна, працуе служба "Кніга-103". Набіраюцца паэтычнага дыхання тыя, хто прыходзіць у паэтычны клуб "Натхненне". Тут ды яшчэ ў бібліятэцы імя Горкага рабоце з інвалідамі па зроку надаецца вялікая ўвага. Менавіта работа з невідушчымі з'яўляецца адным з прыярытэтных накірункаў дзейнасці віцебскіх бібліятэк.

Алег САЛТУК

На здымку: Надзея Лебедзева (у цэнтры) з паэтамі Мікалаем Агеевым і Галінай Пруднікавай.

# «Залатое пяро» Віктара Гардзея

Імя Віктара Гардзея ў літаратуры займае самавітае месца. Вуліца ў роднай вёсцы Малыя Круговічы на Ганцаўшчыне носіць прозвішча свайго знакамітага гадаванца. Бадай, рэгулярна выходзяць кнігі (хоць і не ўсе з запланаваных). Вось і зусім нядаўна ў серыі выдавецтва "Мастацкая літаратура" "Залатое пяро" выйшла яго кніга паэзіі "Трыадзінства", якую можна назваць своеасаблівай анталогіяй. Своеасаблівай таму, што пад яе вокладкай сабраны лепшыя паэтычныя творы як апошніх часоў, так і… самага пачатку творчага шляху В. Гардзея.




І ўсё ж, думаецца, увагі з боку прафесійных чытачоў да яго творчасці малавата. Гэта адзначае ў прадмове з трапнай назвай "Зямное і вечнае" Алесь Марціновіч. Затое хто "паспытаў" Гардзеева Слова, якое ўскаласілася на жывым палескім вострaве матчынай мовы, той заўсёды будзе затрымлівацца на радках пад гэтым прозвішчам, якое за амаль паўвека (як час ляціць!) стала нечым накшталт, як сёння модна казаць, брэнда. Праўда, слова "брэнд" прынята прымяняць хутчэй да "раскручаных" тавараў. А з "раскруткай" тут слаба. Дый таварам назваць паэзію цяжка — нерэнтабельная яна. А можа, і лепей, што ўсё гэтак. Інакш магло б не быць той камернасці і інтымнасці, што нясе паэзія В. Гардзея.

Некалі семнаццацігадовым юнаком В. Гардзей стварыў паэтычную замалёўку веснавога лесу пад назвай "Камертон". А сёння ўжо пяро самога аўтара, якое столькі дзесяткаў гадоў ходзіць без фальшу па белых клавішах аркушаў, можна смела называць так.

На жаль, жыццё не заўсёды песціць. І гэта асабліва вострa адчуваюць паэты. Нездарма і кніга В. Гардзея названа трыадзінствам — Беды, Журбы і Віны. Яны — як рэверс медаля, на аверсе якога трыяда Веры, Надзеі, Кахання. Такая дыялектыка. Але — парадокс! — мы не знойдзем нараканняў на жыццё. Яно прымаецца (з не меншымі па пачуццёвай сіле Верай, Надзеяй і Каханнем!). Паэт усведамляе, што "няма цяпла без дзён самотных":

Непастаянны дзень асенні,
І стогн, і ўздых,
што рвецца часу ніць.
Ды ўсё ж цудоўныя імгненні,
Калі яшчэ душа баліць.

Паэзія В. Гардзея традыцыйная — і па форме, і ў тэматычным плане. Здавалася б, нічога новага. Але якраз дзякуючы яго някідкай, ды імпліцытна яскравай чалавечай індывідуальнасці лірычны свет вершаў непаўторны. І ў той жа час — тыповы ў сваёй надзённасці, таму і блізкі, зразумелы, бадай, для ўсіх. І калі ён піша пра прыроду, і калі пагружаецца ў філасафічныя нетры быцця, калі адлюстроўвае боль абпаленага вайной пакалення, калі спавядаецца ў нечым асабістым — усё замешана на шчырасці, якую прынята называць гранічнай.

Дзяцінства і вобраз рана страчанай маці перадаюцца ў вершах В. Гардзея з тонкім трымценнем, без гучнага надрыву, малітоўным шэптам: каб пачуць яго, трэба мець адпаведна далікатнае, чулае сэрца.

Забудзецца
вобраз сірочы
І час, што мільгнуў
паміж траў.
Успомніць бы
матчыны вочы.
Згадаць бы,
хто хлеба даваў.

Тэма апошняй вайны ў нашай літаратуры прадстаўлена, мусіць, як рэдка ў якой, і шырока, і глыбока. Ды В. Гардзей і тут знайшоў свае ноты ці, дакладней, іх спалучэнне. Так, у "Баладзе пра тытунь", датаванай трыццаць першым пасляваенным годам, паэт распавядае відавочна нявыдуманую трагедыю цёткі Мілы, якая столькі часу чакае свайго суджанага Сцяпана. Сімвалам таго чакання стаў яго самасад, які, пераняўшы яшчэ раней мужчынскую работу, пачала курыць і кабета:

— Мой родны,
міленькі Сцяпанка,
Куру я ў смутку
і ў журбе,
Бо той тытунь,
што ўзрос ля ганка,
Не даў забыць,
забыць цябе.

У горы цёткі Мілы высвечана доля ўсяго народа, пасляваенныя фарбы якой можна параўнаць толькі з адценнямі чарнобыльскай жуды:

Дзе сеялі жыта — аблога,
Дзе бульбу садзілі —
папар.
Над вёскай
арлана крутога
Збянтэжана "ловіць"
радар.

Паэзія В. Гардзея характарызуецца сама па сабе павышанай чуйнасцю лірычнага героя да розных праяў гэтага свету, які бывае не толькі белым. Аднак і за смугой суму ды болю бачыцца тое, што не дае апусціць рукі, тое, што мацуе жыццёвыя сілы, нягледзячы на экзістэнцыйны драматызм. Таму той жа вобраз матулі паўстае тоесным анёлу-ахоўніку:

З белай завеі
ты горкай часінай
Выйдзеш у белым,
і мне ласкавей
Свет усміхнецца
ў самоце адзінай
Воблакаў снежных
і шумных завей.

Дый кніга ў цэлым пакідае рэха матыву мажорнага, аптымістычнага, бо іншага і не магла навеяць "Навагодняя паштоўка землякам", размешчаная, напэўна ж, невыпадкова ў кнізе на завяршэнне:

Не пагасне
язычніцкі Зніч —
Яркі бляск
асвятляе загоны.
На пагорках маіх Кругавіч
Дабравестам
царкоўныя звоны.

А значыць — жыццё не спыняецца і доўжыцца знакаміты міг паміж мінулым і будучым, абяцаючы і надалей адкрыцці, новыя радасці, свежыя вершы…

Анатоль ТРАФІМЧЫК




# Распраўляючы крылы

Зборнік "Не наступайте птице на крыло" гомельскіх паэтаў Дар'і Дарошкі і Уладзіміра Чараухіна выйшаў у выдавецтве "Кнігазбор" у серыі "А3" — першая кніга паэта", заснаванай паэтам з Гомельшчыны Іванам Бісевым. Зборнік з трох частак. Першая частка (28 вершаў) "Объятия — источник мира" — аўтарскія творы Дар'і і Уладзіміра, другая (19 вершаў) "А за окнами снег" — вершы Дар'і, трэцяя (5 вершаў) — "Татмир" — супольная паэзія Дарошкі і Чараухіна. Прадмову напісала Ніна Шклярава, якая "дабраславіла" на сапраўдную паэзію многіх творцаў Гомельшчыны, пачынаючы з Анатоля Сыса.

Структурна зборнік можна прадставіць як пэўную паралель гадавому колу царкоўнага Богаслужэння: пачатак выклікае алюзіі з Іаанам Прадцечам, а заканчэнне падводзіць да ўзгадкі Святога Духу, галоўнае свята якога прыходзіцца на Тройцу.

Як і ў хрысціянскай класіцы — "Хроніках Нарніі" — Бог ані разу наўпрост не згадваецца, тым не менш, шлях да Яго праз зборнік, як і ўва многіх добрых кніжках, праходзіць. Праходзіць праз боль, пакуты, расчараванні, праз быт і іншыя вельмі зямныя з'явы.

"Объятия" — гэта пасыл да Старога Запавету. І як Стары Запавет пачынаецца са стварэння Свету і Эдэму, так і тут — першыя вершы — стварэнне творчага Сусвету і Эдэм:

Золотые подсолнухов пяльцы
Подарило планете лето,
Чтобы солнце лучами света
Вышивало в оранжевом танце…
(Дарошка)

Здесь не слышно городского шума
Тишина прозрачна и легка.
И скользят неторопливо думы,
Словно пальцы ветра у виска.
(Чараухин)

Далей, заканамерна — распровед пра тое, што пасля Эдэму:

Кусты — колючей проволокою — в ряд
И тополя — суровою охраной —
Безмолвно вышли на ночной парад…
Мой город — растревоженная рана.
(Дарошка)

Только посох да кусок сухого хлеба —
Вот и всё… вверху пустое небо.
(Чараухін)

І гэтак далей.

Частка "А за окнами снег…" ужо называю выклікае асацыяцыю з чаканнем Калядаў і Хрыстовага нараджэння. Вершы ў ёй — дзіцячая гатоўнасць да свята: "Мне почему-то хочется смеяться…", і, як і ў Евангеллі, — аспрэчванне канчатковасці зямных законаў і рытуальных павадзін: "…Я не согласна слушать споры // О том, кто в гонке фаворит… // Огни Вселенной — моя площадь, // А не манежные огни" і рэальнасць Уваскрасення: "А знаете, когда земля воскреснет…".

"Мы взлетим, обязательно взмоем…
…Будто птицы, а вроде — люди,
Вроде люди, а будто — рыбы.
Будто сотни несчастных судеб
Обрели наконец-то нимбы;
Будто сотни морских песчинок
Стали жемчугом безупречным;
Будто каждый из нас, вне чина,
Удостоился главной встречи.

Заключны акорд часткі пра тое, што "…огонь воскрес // И ликовало Слово". На этапе гэтага зборніка такім маленькім уваскрасеннем стаў пераход Дарошкі і Чараухіна да супольнай (саборнай, хоць, быць можа, і з пэўнымі агаворкамі) творчасці, вынікам чаго стала нараджэнне "Татміра" (ад частак імён аўтараў: Дар'і (у сапраўднасці Таццяны) і Уладзіміра.

Заключная, "апостальская" частка — пачынаецца з верша, які даў назву частцы першай: "Объятия — источник мира, животворящего тепла…", а сканчваецца вершам, што даў назву зборніку "Не наступайте птице на крыло".

У рэальным жыцці і Дарошка, і Чараухін знаходзяцца на даволі значнай адлегласці ад зямной Царквы. Тым не менш, іх супольны зборнік яшчэ раз даводзіць, што сапраўдная паэзія — гэта заўжды больш за самавыражэнне. Не факт, што кніжачка гэтая ўсіх чытачоў кране, але ўжо факт, што атрымалася сведчанне пра Вечнасць. Нягледзячы на прыкладзеныя абставіны.

Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

Калонка Міхася ЮЖЫКА

# Герой, вышэйшы за час



Неяк я ўжо вёў размову пра сучаснага героя ў рамане "Адзінота ў Сеціве" польскага пісьменніка Януша Вішнеўскага — і высветлілася, што праз сваіх персанажаў аўтар насамрэч люструе сапраўднага і ўсеўладнага "героя" сучаснасці — грэх чалавечы.

Не шукаючы паралелі, хацеў бы згадаць і ўсім добра вядомы раман Івана Шамякіна "Атланты і карыятыды", які, на мой погляд, з'яўляецца вяршыняй творчасці пісьменніка. Ні да, ні пасля Шамякін не дасягаў такой вышыні мастацкага ўвасаблення сваіх ідэй. Хоць набліжаўся да яе, намацваючы каларытныя вобразы сучаснікаў у папярэдніх раманах – "Сэрца на далоні" і "Снежныя зімы".

Галоўны архітэктар абласнога цэнтра Максім Карнач з "Атлантаў і карыятыдаў" бачыцца мне непераўзыдзеным ва ўсёй беларускай літаратуры рэалістычным вобразам станоўчага героя.

Шамякін малюе надзвычай рэалістычную карціну "саўковай" рэчаіснасці пачатку 70-х гадоў. Інтрыгі ў праектным бюро, самадурства чыноўнікаў, нягнуткасць савецкіх законаў, абыякавасць да патрэбаў простых грамадзян... І сярод усяго гэтага жыве і дзейнічае галоўны архітэктар горада Максім Карнач — талент ад Бога, да таго ж надзелены жалезнай воляй і прабіўнымі якасцямі. Прыгажун брутальнага тыпу, сямейны чалавек, бацька... Гарачлівы, рэзкі да грубасці, бескампрамісны.

Пісьменнік бярэ той адрэзак жыцця Карнача, калі руйнуюцца шмат якія яго ідэалы, калі вось-вось будзе аддадзена на глум бяздарнасцям ягоная пасада, дзякуючы якой ён меркаваў палепшыць жыццё гараджан. З-за наравістага характару ён стаў у небяспечную апазіцыю да ўладаў…

Акрамя таго, наспявае разрыў з жонкай, сумеснае жыццё з якой ператварылася ў суцэльны кашмар. А яшчэ дачка выскоквае ў сталіцы замуж, патрабуючы грошай. Ён матаецца ўзімку з дачы на працу і назад, на таксі, а то і пешкі. Дача, у якую ён уклаў столькі душы, аказваецца не патрэбнай ні дачцэ, ні жонцы... А яшчэ памірае ў вёсцы маці. Захварэўшы на грып, які дае ўскладненне, ён ляжыць адзін на дачы, але нікога не кліча на дапамогу... У жары, кволы, падымаецца і пачынае выразаць з камля вобраз памерлай маці, скульптуру.

Урэшце Карнач адужвае ўсе злыбеды, апроч непаразумення з жонкай, якая, даводзіць аўтар, усё жыццё мардавала яго беспадстаўнай рэўнасцю. Адноўлены на пасадзе. Высокі чыноўнік сам прыязджае ў яго мядзведжы кут, выпівае з ім чарку, цісне руку. Перад моцнымі людзьмі скараюцца жыццёвыя навальніцы.

Як кантраст няўступліваму Карначу Шамякін дае прыклад сапраўднай хрысціянскай сям'і яго сябра Віктара Шугачова. Звычайны інжынер, "працоўны конік" архітэктуры, ён зарабляе нашмат менш за Карнача, але яго шматдзетнай сям'і ўсяго як быццам хапае. Бо ў іх ёсць галоўнае — любоў і, як вынік, бескарыслівае жаданне ісці адно аднаму на дапамогу ў жыццёвых калізіях.

Гэтым кантрастам пісьменнік ставіць пытанне лёсу і прызначэння. Ва ўсіх на гэтай зямлі свае ролі, свае задачы. Карнач — на вяршыні, а там холадна, ветрана, адзінока. Ягоны сябар — у падмурку той піраміды, якая мацуе чалавецтва праз галоўную жыццёвую каштоўнасць — любоў. Але абодва — атланты, героі на ўсе часы.

Прачытаўшы раман Януша Вішнеўскага "Адзінота ў Сеціве", мне захацелася пакласці яго на далёкую паліцу. Смакаванне чалавечага граху ва ўсіх яго праявах — не самы лепшы спосаб зрабіць чытача шчаслівейшым. Раман Івана Шамякіна я перачытваў мноства разоў, бо часам хочацца пабываць у свеце хрысціянскай маралі і хрысціянскай любові, пагрэцца каля гэтага вогнішча, зацепленага пісьменнікам у самы застойны савецкі, атэістычны час.

Беларуская літаратура ў сілу асаблівасцей статусу нацыянальнай мовы пакуль не скацілася ў прорву камерцыі, як гэта адбылося амаль з усімі еўрапейскімі літаратурамі, што даўно і ўстойліва пакланяюцца яго "вялікасці" граху. Дык давайце ж адкрываць герояў свайго часу, скарыстоўваючы унікальнасць нашай нацыянальнай культуры.

# Быў месяц май…




Усе літаратурныя выданні РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў юбілейныя дні 65-годдзя Перамогі над фашызмам прысвяцілі свае майскія нумары пераважна ваеннай тэматыцы. Кожны з часопісаў, вядома, падышоў да гэтай справы па-свойму, з уласнай меркай і ўласнай падачай матэрыялаў, таму ва ўсіх трох выпадках атрымалася карціна вельмі разнастайная і арыгінальная. Паглядзім жа на кожнае з выданняў паасобку, не вызначаючы, зразумела, пераможцы, бо і спаборніцтва тут было б недарэчным.

У "Полымі" пасля ўступнага слова А. Савіцкага пра значэнне Дня Перамогі чытач мае магчымасць пазнаёміцца з падборкай вершаў 14 паэтаў з былых саюзных рэспублік (у перакладзе М. Мятліцкага), напісаных як непасрэдны водгук на дні вайны. Завяршаецца падборка вершам П. Панчанкі "Беларусі". Працягвае тэму публікацыя фрагментаў няскончанай аповесці І. Шамякіна "Караван", што пісалася 24-гадовым аўтарам у 1945 годзе, адразу пасля вайны. Твор друкуецца ўпершыню з рукапісу.

З прозы ў майскім "Полымі" таксама апавяданне В. Праўдзіна "Пяць цукерак ад фрыца", апавяданне Я. Каршукова "Спадчына". Арыгінальнай уяўляецца і публікацыя нядаўняга юбіляра У. Ліпскага "Пакланіся любові. Лісты да ўнука". Аўтар на працягу года напісаў 37 лістоў да свайго ўнука Толіка, пачынаючы ад самага дня яго нараджэння і да першай гадавіны. У лістах — дзедавы запаветы ўнуку. Друкуецца і працяг перакладу рамана С. Пясецкага "Пяты этап".

У лірычнай частцы нумара — вершы К. Камейшы, А. Нафрановіча і Э. Ярчак.

У крытыка-публіцыстычным аддзеле — артыкул М. Мішчанчука "Сваёю сцежкаю ісці: паэзія апаленых пялёсткаў" пра творчасць паэтаў, якіх вайна пазбавіла жыцця. "Круглы стол" Інстытута гісторыі НАН Беларусі і часопіса "Полымя" "Вялікая Перамога: вынікі, памяць, урокі" мае пэўнае падабенства з тым, што надрукаваны ў "Нёмане", але ў той жа час знаёміць з меркаваннямі іншых гісторыкаў-навукоўцаў, а таксама пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў па дадзенай праблеме (удзельнікі — А. Каваленя, А. Савіцкі, У. Гніламёдаў, Я. Бараноўскі, І. Валахановіч, І. Варанкова). А. Яскевіч у артыкуле "Творчая культура Івана Навуменкі" аглядае творчасць народнага пісьменніка Беларусі, які нядаўна мог бы святкаваць свой 85-гадовы юбілей. Д. Бугаёў аналізуе ў рэцэнзіі "Энцыклапедычны даведнік пра Васіля Быкава" двухтомную працу С. Шапрана, што летась пабачыла свет.

А. Корда ў рубрыцы "Старонкі лёсу" дзеліцца ўспамінамі пра ваенныя дні — матэрыял "Па прыступках памяці". Тут жа — публікацыя К. Вікенцьева "Летапісцы ляснога фронту" пра партызанскія і падпольныя выданні. Адным з самых цікавых артыкулаў нумара з'яўляецца нарыс М. Хілько "Мілая сястрыца Маша!.." пра сястру пісьменніка Кузьмы Чорнага Марыю Карлаўну Раманоўскую. Тут жа ўпершыню друкуюцца і фотакопіі 2 лістоў Кузьмы Чорнага да сястры (жнівень 1944 г.), а таксама франтавых лістоў сына Марыі Карлаўны, Уладзіміра, забітага на вайне.




Часопіс прапаноўвае сумесны нумар "Беларусь — Расія" выдадзены пры падтрымцы Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы.

Падборка "Каб вайна была толькі на сцэне…" змяшчае ў сабе адказы на пытанні карэспандэнта часопіса Т. Кувырынай — "Які след пакінула вайна ў жыцці Вашым і Вашай сям'і?", "Як вайна паўплывала на Вашу творчасць?", "Што б Вы пажадалі нашым ветэранам?", атрыманыя ад вядомых дзеячаў культуры і мастацтва: М. Савіцкага, Р. Янкоўскага, У. Гасцюхіна, М. Фінберга, А. Дударава. У выніку адказы на немудрагелістыя пытанні перарастаюць ва ўспаміны дзяцінства.

Працягвае ваенную тэму пісьменнік-франтавік А. Савіцкі з апавяданнем 1963 года "Зялёнае поле" ў перакладзе з беларускай мовы А. Ждана. За апавяданнем — падборка вершаў М. Чарняўскага ў перакладзе А. Цяўлоўскага, сярод якіх ёсць і твор, прысвечаны "сынам палка".

Лепшым празаічным творам нумара з'яўляецца, безумоўна, апавяданне вядомага рускага пісьменніка Ю. Бондарава. Закранаючы між іншым і тэму вайны, празаік распавядае гісторыю старога вучонага філолага, які разважае пра сэнс, сутнасць і хуткабежнасць жыцця, смешнасць славы і поспеху. Ключавым момантам у творы з'яўляюцца дыялогі старога з унучкай. Як і ў выпадку з А. Васілевіч — вельмі "маладая" проза, што азначае, відаць, тую самую амаль пафасную, але сапраўды цяпер і заўсёды наяўную непадуладнасць таленту часу.

З вядомых рускіх паэтаў у нумары таксама — вершы нядаўна памерлага В. Бокава і вельмі навaт жывога па танальнасці К. Ваншэнкіна (большасць вершаў падборкі прысвечаны жанчынам).

Матэрыялы на тэму перамогі над фашызмам працягваюць дакументальная аповесць А. Смалянкі "Мы не скарыліся. Фашысцкая блакада Налібоцкай пушчы вачыма хлопчыка" (заснаваная на рэальных падзеях), апавяданне А. Майко "Цукерка з Вялікай зямлі" (лірычная замалёўка, якую можна аднесці і да так званай "літаратуры для падлеткаў"). І. Сабіла ў невялікай аповесці "Адзін дзень на ўсіх" расказвае меладраматычную гісторыю пра магчымую сустрэчу двух знаёмцаў, якіх некалі звяла вайна. Напісана рэч няблага, але сюжэт — малаверагодны, таму і кажу: "меладрама". Трошкі змазана канцоўка. Адзначана асобнай старонкай сёлетняя выпускніца 29-й гімназіі Мінска В. Семяненка. Надрукаваны толькі адзін верш з прадмовай Ю. Сапажкова, рэдактара аддзела паэзіі часопіса.

Асобны раздзел "Нёман" прысвяціў творам, напісаным пра вайну пасляваенным пакаленнем — "дзецьмі вайны". Але класічных твораў вядомых празаікаў (Пташнікава, Адамчыка, Стральцова) там няма; прадстаўлены толькі новыя аповеды — Б. Беляжэнкі "Асколак", І. Стадольніка "Лекар", А. Малярэнкі "Незабыўны дыялог".

У рубрыцы "Адзін верш" — лірыка М. Шашкова, А. Васільева, Б. Вароніна, А. Скарынкіна, В. Рамашкі, М. Пягасіна ("Баладу о раненом солдате" апошняга хочацца згадаць асобна — твор вельмі яркі, сур'ёзны і сапраўды таленавіты). Завяршаюць літаратурную частку два апавяданні А. Суслава на сямейна-бытавую тэматыку, не надта добра сюжэтна-стылёва прадуманыя.

Раздзел "Дакументы. Запіскі. Успаміны", як заўсёды насычаны і цікавы, прапаноўвае публікацыі на ўсё тую ж юбілейную тэматыку. Аднак ад тэматыкі яны не становяцца менш каштоўнымі. Так, упершыню цалкам друкуецца франтавы дзённік пісьменніка і мовазнаўцы М. Лобана (пераклад з беларускай мовы і публікацыя У. Кулажанкі). С. Міхеенкаў у зборным нарысе "Калі былі мы на вайне… Салдацкія гісторыі" распавядае эпізоды з рэальнага салдацкага жыцця, часам трагічныя, часам нават і анекдатычныя. Друкуецца таксама і заканчэнне эпісталярнай спадчыны В. Віткі ваеннага часу.

У раздзеле "Да 65-годдзя Вялікай Перамогі" прадстаўленыя гутарка Н. Чайкі з міністрам абароны Рэспублікі Беларусь Ю. Жадобіным, разгорнуты аналітычны артыкул А. Кавалені і А. Калеснікавай "На вякі ў памяці людзей" (закранае пытанні ўвекавечання памяці загінулых на Вялікай Айчыннай) і матэрыялы "круглага стала" ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, у якім прынялі ўдзел вядомыя вучоныя У. Адамушка, А. Літвін, У. Кузьменка, С. Новікаў, Я. Новік. Тут жа — артыкул М. Смірнова "Немудрагелісты беларускі рэзістанс" пра калабарацыянісцкі рух на Беларусі.

Рубрыка "Час. Жыццё. Літаратура" прапаноўвае эсэ рэдактара "Литературной газеты" Ю. Палякова "Бітва за памяць" і артыкул В. Куляшовай "У водсвеце сцягу" пра гісторыю стварэння А. Куляшовым паэмы "Сцяг брыгады". Завяршаецца нумар яшчэ адным ваенным дакументальным сведчаннем відавочцы "з пошты часопіса" — успамінамі Я. Клокава "Канікулы працягам у тры гады".




"Дэбютам" адкрывае пяты нумар "Маладосці" А. Арцёмаў, паэт ужо вядомы многім удзельнікаў беларускамоўнага сегмента інтэрнэт-прасторы як незнарокавы "спадкаемца" літаратурнага лёсу М. Багдановіча — 19-гадовы А. Арцёмаў нарадзіўся і жыве па-за межамі Беларусі, у расійскай Туле, але жыве Беларуссю, яе праблемамі, піша вершы на беларускай мове, пільна сочыць за падзеямі ў нацыянальным літаратурным бытаванні. У "Маладосці" — дэбютуе. Наконт яго вершаў можна зрабіць тыя ж самыя закіды, што некалі рабіліся і ягонаму геніяльнаму папярэдніку: адчувальная літаратурнасць, замкнёнасць на пісьмовай мове, імкненне да "правільнасці" паэтычнага выказвання дае свае, не заўсёды добрыя вынікі. Вось жа, Багдановічу гэтыя закіды не перашкодзілі стаць Багдановічам. Будзем з цікавасцю назіраць за тым, што станецца з Арцёмавым.

Далей ідзе ўжо ўласна "ваенная" частка. Апавяданне І. Карэнды "Скрыпка з Берліна" адлюстроўвае эпізод з біяграфіі ветэрана. Рамантызаваная частка твора, у якой гаворыцца, як салдат знаходзіць у Берліне скрыпку і грае на радасць аднапалчанам народную песню, выглядае больш бляклa, у параўнанні з сучаснай "пaслягісторыяй", калі ветэран хоча перадаць гэты інструмент маладым скрыпачам. Асабліва добра і праўдзіва-рэалістычна атрымаўся ў аўтара тэлефонны дыялог героя з дырэктарам музычнай школы.

У працяг тэмы "Маладосць" прапаноўвае выбар вершаў А. Пысіна, выдатнага беларускага паэта, чыё 90-годдзе сёлета прайшло амаль незаўважна. Сярод надрукаваных тут вершаў — не толькі "франтавыя", але і класічныя ўзоры філасофскай пысінскай лірыкі.

П'еса А. Паповай "Бліндаж" — фантасмагарычная трагедыйная замалёўка, пэўны час ідзе на падмостках Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, а таксама пастаўлена многімі моладзевымі тэатральнымі студыямі ў Расіі. У "Маладосці" ўпершыню загучала на беларускай мове праз перакладчыцкую дапамогу Р. Баравіковай.

Вершы В. Лукшы ваенную тэматыку абмінаюць і адлюстроўваюць эмацыянальныя ўзрушэнні аўтара ад сузірання карцін прыроды, у тым ліку і падчас падарожжаў.

Мабыць, лепшым празаічным выступленнем нумара можна назваць два апавяданні патрыярха айчыннага пісьменства А. Васілевіч ("Трэцяя палата" і "Над горадам прашумеў лівень"). Не магу дакладна сказаць, ці друкаваліся яны раней, бо напісаныя, хутчэй за ўсё, не адзін дзесятак гадоў таму (прынамсі, другі твор). Аднак гучанне апавяданняў — зусім сучаснае, цалкам актуальнае і абсалютна свежае. "Незамутнёнасць" аўтарскай стылістычнай манеры прымушае толькі пашкадаваць пра тое, што прозы такога гарту і майстэрства сёння "днём з агнём" не знойдзеш. Такі ўжо закон, што "патрыярх" вельмі часта не роўня радавому "клірыку".

Вайсковы, але ўжо не ваенны запал маюць у сабе вершы сяброў літаратурнай студыі "Да-зор" Мінскага суворaўскага ваеннага вучылішча. Уразіла чатырохрадкоўе суворaўца Ільі Ашуйкі: "Паважаю гісторыю нашу, / І паэмы, і яркі фальклор. / І Францішка Скарыну, і Цётку, / Што складалі агульны наш твор", а таксама даволі спелы па форме твор суворaўца Мікалая Баргана.

У майскім нумары "Маладосці" друкуецца заканчэнне аповесці Г. Пацыенкі "Пакуль куля ляціць". Такім чынам, гэты твор друкаваўся з працягам у чатырох нумарах часопіса. Аднак, выяўляецца напрыканцы з абаранага эпілога, што і гэта было ўсяго толькі запеўкай, адным з штрыхоў-нарысаў аўтара, прысвечаных ваеннаму дзяцінству. Застаецца толькі пашкадаваць, што на вызначанай яму плошчы Г. Пацыенка не здолеў выказаць і ўспомніць усё, што хацеў. Яно зразумела, каб апублікаваць чаканую новую "Вайну і мір" не хопіць і гадавой падшыўкі "Маладосці", але, зрэшты, калі ўжо дадзеная была хоць такая магчымасць то можна было неяк чытача парадаваць цэласным і несерыйным творам. Думаецца, у Г. Пацыенкі яшчэ ўсё наперадзе.

Завяршаецца літаратурная частка нізкай вершаў У. Мазго, дзе сярод звыклага вобразнага краявіду на гэты раз трапляюцца "нудзісты-натурысты" і "SMS-кі з Каіра".

Публіцыстычную частку часопіса адкрывае найцікавейшы матэрыял М. Клімковіча, створаны на аснове запісаў-успамінаў сваіх родных, а таксама Р. Раманоўскай, дачкі Кузьмы Чорнага. З гэтых сведчанняў можна даведацца пра каштоўныя дэталі даваеннага пісьменніцкага побыту, якія беззваротна былі б згублены, каб не М. Клімковіч. У наступным нумары — працяг публікацыі.

В. Гурскі ў нарысе "Юнакі бяруць у рукі зброю" (які больш падобны да апавядання па форме) адлюстроўвае выпадкі з партызанскага жыцця.

Ва ўспамінах Я. Аксяновіча "Горкія выпрабаванні", першая частка якіх друкавалася роўна год таму, можна ўбачыць яшчэ адну непасрэдную асабістую праўду пра вайну.

З матэрыялаў па-за юбілейнай тэматыкай чытача яўна зацікавіць артыкул Д. Гуштын, прысвечаны алімпійскаму чэмпіёну-фрыстайлісту А. Грышыну. Вельмі неблагой уяўляецца і гутарка Ю. Новік з маладым дызайнерам і стваральнікам сайтаў Д. Фамічэўскім.

Рубрыка "Мая прафесія" прапаноўвае разгорнуты артыкул І. Клімковіч пра Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж паліграфіі імя В. З. Харужай.

У крытычную частку нумара ўваходзяць рэцэнзіі-эсэ М. Маляўкі на кнігу У. Ліпскага "Пакланіся травінцы" і К. Лешніцы на кнігу Т. Падаляк "Нашчадкі вогненных вёсак" (апошняя нядаўна пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва"). Я. Гарадніцкі аналізуе даробак і ўнёсак І. Навуменкі ў айчынную літаратуразнаўчую навуку ў артыкуле "Шырыня праблематыкі, багацце ідэй". Узорам тэатральнай крытыкі, досыць занядбанай сёння, з'яўляецца водгук В. Грыбайлы на прэм'еру п'есы "Мудрацы…" па п'есе А. Астроўскага "На ўсякага мудраца хапае прастаты" Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Завяршае крытычную частку рубрыка "Папытай у кнігарні", дзе Я. Лайкоў прадстаўляе кнігі С. Кавалёва "Шлях да Бэтлеема" і У. Ліпскага "Янкаў вянок".

Таксама ў нумары — працяг гістарычнай хронікі Я. Длугаша "Грунвальдская бітва" і краязнаўчага даведніка Д. Крывашэя і А. Мальдзіса "Літаратурныя мясціны Беларусі".

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



Таццяна БУДОВІЧ

* * *

Вачэй тваіх шчупальцы
даследуюць кожны
квадратны сантыметр
шчырасці
словаў
маіх
павярхоўна.

* * *

Вецер шматае голле.
Аблокі
плывуць па шашы
нябёсаў.
Іх капітаны —
хлопчыкі з доўгімі валасамі —
часам з рук выпускаюць
лейцы
і мы назіраем
нябесны хаос.

І ажываюць смяшынкі
ў Вачах
Пана Бога.

* * *

ні гэтая восень
ні тая што прыйдзе
пасля
калі я адпушчу
ці адпусціць мяне
неба
ў далёкай чужой краіне
(верасень, вышыня
над узроўнем мора
n тысяч метраў)
не зможа
ані прыспешыць
ані затрымаць тых
хто застанецца надоўга
хто
сыдзе

* * *

душа

зруйнаваны дашчэнту
пусты
абязлюдзелы горад
у ім вераб'і
б'юцца аб шкло
ля перасохлых крыніц
сцеле
шкілеты свае
чаканне

* * *

фільмы старыя
імгненні лета
вячэра начная
пах навальніцы
тут і цяпер
натхненне маё,
адзінота

## Імпрэсія лета

далоні платанаў
імкнуцца
насустрач дажджу
і ветразі парасонаў
спінамі
ловяць
позірк аблокаў
аддаляецца
мой карабель
мачты чые
ламаюць
лінію далягляду

* * *

Падае сонца ў далоні
дзікага вінаграду
і атуляе пяшчотай
вечар.
Язмін, быццам на баль,
прыбраўся.
Півоні ля ганка.
Сам Бог, пэўна, тут спачывае
ад клопатаў дзённых.

## Ля возера

Белая коўдра аблокаў
на зялёнай падушцы
лета.
Камень
грэе свой бок
на сонцы.
Водар шыпшыны.
Дзеці святкуюць
жыццё.

* * *

Там, дзе ўспамінамі і дажджамі
пахне паветра
ў летнюю ноч,
над возерам у альтанцы
з разнымі ўзорамі
стрэнемся ўрэшце,
мой адзінокі вандроўнік.
Адсвяткуем канец блуканняў…



Ганна ДУСЬ

## Дэбют

Вершаў Ганны Дусь у гэтым нумары магло б і не быць, каб не наша выпадковая сустрэча падчас майго выступлення перад старшакласнікамі сталічнай СШ № 52. Пасля заканчэння да мяне і падышла па аўтограф сімпатычная дзесяцікласніца, якая прызналася, што піша вершы. Пры сабе іх у дзяўчыны не аказалася, і я папрасіў дасласць на мой адрас. Сёе-тое выбраў, каб прапанаваць сёння ўвазе чытачоў. Думаю, што яны спадабаюцца. А можа, каго і самога натхняць узяцца за пяро.

Што ж, у добры шлях, Ганначка! Няхай і мара твая збываецца, і вершы складаюцца!

Анатоль ЗЭКАЎ

## Ліст брату

Праз колькі год хачу я, брат мой,
Адкрыць табе сваю душу.
Не ведаю, ці будзеш рады
Таму ўсяму, што я скажу.

Я не далёка. Мне ўсё бачна.
І хай між намі акіян,
Усё-ткі скончыцца, няйначай,
І новы мой, і твой раман.

Бо звязаныя мы да скону
У сённяшнім жыцці зямным,
У долі цяжкай і будзённай,
Дзе нашу будучыню снім.

* * *

Выгукала.
Цябе з голасу саткала.
Выпляла,
Як плятуць абярэгі
На шчасце.
Галоўнае — не здрадзіць,
Не ўпасці так нізка.
Але і птушка можа
Памыліцца…

* * *

Непаўторнаму А. С.

У прадчуванні імгненнай восені,
У забыцці,
У творчай прорве —
Ісці наперад,
Складаць свет нанова,
Прыдумаць слова,
Дзею,
Жэсты.
Зноўку
Паставіць п'есу
ў тэатры ценяў.
Без вопраткі,
Без масак,
Без адценняў.
Такімі як ёсць
Стаць на калені
прад Богам,
Бо больш, як гэта,
няма нічога…

* * *

Запалі па мне свечку,
Хай не згасне яна.
Я злячу у бясконцасць.
Хутка прыйдзе вясна.

Не ўзгадвай жа болей
Мяне ты ні ў снах,
Ні ў штодзённым болі.
Хутка прыйдзе вясна.



Алег САЛТУК

## Аднойчы

Аднойчы здарыцца любоў,
Адзіная якая
Да ўвекавечаных бароў
Пад вечным небакраем.

Якой азорана нібы
І хаты, і нябесы,
І валуноў крутыя лбы,
І тоненькія росы.

І тая, што даўно была.
Хоць адгукніся — дзе ты?
Табе ж насілі з паўсяла
Хлапцы свае букеты!

Гэта "аднойчы" будзе жыць
Аж цэлы век з табою.
Слязінкай цёплай набяжыць,
Салодкім ляжа болем.

І вечаровым беражком
Да раніцы пакрочыць.
І саматканым ручніком
Твае асушыць вочы.

## Час

Ад былінкі малой
да вялікага дуба —
Не гадоў, а вякоў калаўрот.
Колькі дум гэты дуб перадумаў,
Звёдаў радасцей і згрызот.

Пралятралі над ім
ліўнем дзікія стрэлы
І кальчугі звінелі над ім.
І ваяр не адзін
тут зваліўся схмялелы
Ад сваёй і чужое крыві.

Ля падножжа яго сустракаліся двое,
Тут зліваліся целы і душы ў адно.
Ад сузор'яў было неба ўсё маладое
І любві бунтавала старое віно,

На крыві, на любві,
на бунтарстве і ладзе
Ўсе трымаецца без берагоў.
Дуб стаіць, нібы князь на пасадзе,
І былінка-князёўна каля яго.

## Настрой

Бывае падступіць такое,
Якое не разгадаць…
Над вечным і мудрым спакоем
Аблокі і зоркі вісяць.

Над полем, над рэчкай, над садам
Трохкутнікі жураваў.
Каб даць сабе нейкае рады,
За імі ўзляцець ты гатоў.

Ды толькі куды і навошта
Туды, дзе нязваныя мы?..
Нясецца птушыная пошта —
Крылатая вестка зімы.

Над вечным і мудрым спакоем
Стагоддзі і птушкі ляцяць.
А ў сэрцы — нязбыўнае, тое,
Пра што можна толькі маўчаць.

## Радасць

У хаце бацькавай жыву,
Сябе пяшчотай спавіваю.
На заінелую траву
Нячутна зоркі аблятаюць,

Да тла згарэлі ўжо яны,
Святло пакінулі прасторам.
Сняць свае горы курганы,
А рэчкі сняць свае азёры.

А я, пакуль яшчэ засну,
Мо колькі слоў знайду забытых
Да сэрца тое прыгарну
Усё, што мною тут пражыта.

Да ранку сцішацца вятры,
Сябры і ворагі — таксама.
І прыйдзе зноўку на зары
У сон, як маладая, мама.



Фота Алеся Высоцкага

# Вяртанне «Шапэніяны»

Выдатны піяніст і кампазітар Фрыдэрык Шапэн з'яўляецца ўвасабленнем у музычным свецe эпохі рамантызму, якая пакінула адметны след у развіцці мастацтва. Свой унёсак у сусветнае святкаванне сёлетняга юбілею Шапэна зрабіў, як вядома, і Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі. На яго сцэне адбылася прэм'ера знакамітай "Шапэніяны" М. Фокіна (мастацкі кіраўнік пастаноўкі — Ю. Траян, балетмайстар-пастаноўшчык — Т. Яршова, сцэнаграфія і касцюмы К. Булгакавай, музычны кіраўнік — А. Лясун).

Прэм'еру гэтую можна назваць і вяртаннем, бо беларускім гледачам "Шапэніяна" ўжо вядома па ранейшых пастаноўках (пра што "ЛіМ" распавядаў 28.05.2010 г. — Рэд.). Доўгі час гэты балет ішоў на акадэмічнай сцэне ў яго класічнай рэдакцыі, а у 1994 г. адбылася прэм'ера ў пастаноўцы Л. Кунаковай на сцэне тагачаснага Беларускага дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. І сёння, больш як праз 100 год з часу першай пастаноўкі М. Фокіным, "Шапэніяна" працягвае захапляць сваёй летуценнасцю і вытанчаным стылем.

"Рамантычная мроя", як называў свой балет сам Міхаіл Фокін, уяўляе сабой харэаграфічную паэму, фактычна бессюжэтны балет-стылізацыю, вобразы якога навеяныя лірызмам музыкі Шапэна і харэаграфіяй, канцэпцыяй рамантычнага балета. "Шапэніяна" структурна складаецца з невялікіх жанравых сцэн, кожнай з якіх адпавядае пэўны твор Шапэна — пяшчотны вальс, какетлівая мазурка альбо прэлюдыя. Яны не звязаныя звыклай логікай развіцця сцэнічнага дзеяння — яе замяняе агульная ідэя, канцэпцыя спектакля, пазычаная менавіта з традыцый рамантычнага балета. У аснове ж сюжэта кожнага балета эпохі рамантызму знаходзіліся ў той ці іншай ступені адносіны паэта (творчага чалавека ўвогуле) з яго музай, творчыя пакуты і памкненні, таму і свет рамантычных балетаў быў населены сільфідамі, вілісамі, ундзінамі ды іншымі нерэальнымі істотамі, чароўнымі, але недасягальнымі, як ідэал гармоніі і прыгажосці, да якога імкнецца кожны мастак. У аснове "Шапэніяны" — ярказ увасабленне гэтага напаўказачнага свету мрояў і памкненняў да ідэалу: малады Паэт і летуценныя сільфіды, яго музы, мары, лунаюць у танцы — то гарэзлівым, то пяшчотным. Галоўным упрыгажэннем балета рабіліся вытрыманы вытанчаны стыль, непасрэдная абаяльнасць і эстэтыка рамантычнага балета, што М. Фокін змог дакладна перадаць у сваёй харэаграфіі.

Беларуская "Шапэніяна" прадэманстравала імкненне захаваць усе лепшыя рысы класічнай рэдакцыі і адкрыла перад гледачамі маляўнічую паляну ў блакітна-зялёным лесе, асветленым промнямі заходзячага сонца, размешчаныя ў вытанчаным і далікатным рытме групы кардэбалета, апранутага ў стылі М. Тальёні. Мяккія лініі малюнка задніка і куліс адпавядаюць лірычнасці музыкі і пявучасці, цякучасці танца, маляўнічыя групы кардэбалета ствараюць усё новыя малюнкі на сцэне і нібы самі з'яўляюцца рухомай, адухоўленай часткай дэкарацый, надаюць асаблівую абаяльнасць сцэнічнаму дзеянню. На жаль, часам балерынам не хапала неабходнай сінхроннасці ў выкананні, з-за чаго крыху зніжалася агульнае ўражанне. Вядучыя партыі на прэм'ерным спектаклі выконвалі знаныя салісты: Ірына і Алег Яромкіны, Людміла Кудраўцава, Кацярына Алейнік, Валерыя Вапнярская, Наталля Рабцава. Найбольш выразна і арганічна выглядала ў балеце Л. Кудраўцава, якой увогуле ўласцівыя лірызм і тонкая пяшчотнасць выканання; яе паветраныя арабескі і скачкі вылікалі адчуванне празрыстасці, "бязважкасці" балерыны. Вылучалася таксама І. Яромкіна, якая калі-нікалі стварала ілюзію паветранасці і прывіднасці свайго танца. Цяжка знайсці прычыны для нараканняў на адрас і іншых артыстаў, асабліва К. Алейнік, чыё выкананне вылучала пэўная свежасць і какетлівы настрой. Аднак асноўным недахопам усіх выканаўцаў, як і спектакля ўвогуле, падалося недастатковае адчуванне і передача стылю эпохі, першаасновы балета.

Тым не менш, сам зварот тэатра да "Шапэніяны", класічнага ўзору харэаграфіі пачатку ХХ стагоддзя, з'яўляецца ўдалым не толькі з нагоды святкавання 200-годдзя Ф. Шапэна. Пастаноўка класікі, асабліва ў выпадку, калі яна высакаякасная, амаль заўсёды гарантуе поспех і дазваляе пазбегнуць абвінавачванняў у благім гусце. Да таго ж, беларускі балетны тэатр заўжды пазіцыянаваў сябе ў якасці захавальніка класічных традыцый. А вось пэўнай навацыяй для балетнай трупы будзе заўтрашні паказ "Шапэніяны" на адкрытай "радзівілаўскай" сцэне ў Нясвіжы.



Кацярына ЯРОМІНА

---

Уражанне

## Пра каханне. Апошняе…

Збылося абяцанне мастацкага кіраўніка Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Валерыя Анісенкі, дадзенае летась на юбілеі драматурга Анатоля Дзялендзіка — уключыць у рэпертуар у адну з яго п'ес. Тэатр паставіў п'есу "Лета", а спектакль атрымаў назву "Яго апошняе каханне (Лета)". Сама назва інтрыгуе, пастаноўку хочацца паглядзець...

Ці можа быць нешта больш трагічнае, чым любоў да СМЕРЦІ, як каханне да ЖАНЧЫНЫ, якую галоўны герой упэўніве ў тым, што шчасце любіць, кахаць, дарыць жыццё, быць маці — больш цудоўна, чым спрадвек забіраць жыцці? Менавіта гэтае пытанне ўзнімае А. Дзялендзік, каб раскрыць сэнс жыцця ў яго дзейнай праяве: сёння кахаць, сёння дарыць свае пачуцці сябрам, родным, любым...Частку сцэны займае бальнічны ложак, на ім — Мікалай Мікалаевіч, галоўны герой: сёння літаратар, у мінулым — доктар-псіхіятр. Побач завіхаецца маладзенькая медсястрычка. Пацыент заводзіць размову пра тое, што і хвораму хочацца зямнога кахання, чалавечага цяпла, той жа чаркі... А сястрычка спрабуе пераканаць, што хвораму ўсё гэта нельга, трэба папраўляцца, і тады... А што тады?.. Часам замест сталага чалавека на сцэне з'яўляецца малады, рухавы, усмешлівы, захаканы ва ўсіх і ўсё, перапоўнены пачуццём гумару. Жыццё бруіць, героі жывуць надзённым, спрачаюцца... І раптам зноў — ложак і хворы чалавек на ім... Калі-нікалі галоўны герой і яго душа — побач: спрачаюцца, успамінаюць...

Рэжысёр-пастаноўшчык Венедыкт Расстрыжэнкаў таленавіта ўвасобіў усё гэта на сцэне. Менавіта ён прапанаваў такі ход, як падваенне асобы галоўнага героя Мікалая Мікалаевіча, даўшы магчымасць артыстам Віктару Багушэвічу і Генадзю Гаранскаму зрабіць вобраз шматгранным. Іх персанаж перажывае каханне да маладой асобы, сустрэчы з сябрамі; дадаюцца гумар і тонкая іронія ад аўтара. Незабыўнае ўражанне робіць рака забыцця Лета ў выкананні Людмілы Сідаркевіч. Трэба адзначыць сцэнаграфію Дар'і Волкавай, музычнае афармленне Цімура Калiноўскага, пластыку ў пастаноўцы Вольгі Скварцовай, работу мастака па святле Сяргея Цыпкіна, камп'ютэрную графіку Таццяны Нікеенкі.

"Каханне перамагае смерць: такі лейтматыў спектакля, — кажа Анатоль Дзялендзік. — Мая гераіня Лета шчаслівая ад таго, што закахалася ў простага смяротнага. Яна адмовілася ад магчымасці заставацца бессмяротнай, хоча нарадзіць дзіця і прайсці з каханым адным шляхам да скону. Як зазначыў адзін з класікаў, не верыць у неўміручасць душы толькі той, хто ніколі сур'ёзна не думаў пра смерць. І Платон гаварыў пра тое, што душа чалавека неўміручая. Праўдзівы мудрэц разумее смерць як пачатак новага жыцця..."

Праз гэтую тэатральную прэм'еру мы спрычыняемся да мудрасці драматурга, які многае зведаў у жыцці. Анатоль Дзялендзік — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, яе юны партызан. Хлопчыкам пазнаў усе цяжкасці ліхалецця. Быў ад'ютантам у Героя Савецкага Саюза, партызанскага генерала Васіля Іванавіча Казлова. Многія факты з жыцця галоўнага героя спектакля — аўтабіяграфічныя. Ён псіхіятр і пісьменнік, драматург, спектаклі паводле яго п'ес ішлі ў больш як сотні тэатраў СССР. Паводле яго сцэнарыя зняты кінафільм "Анастасія Слуцкая". Ды і цяпер ідуць спектаклі паводле п'ес Анатоля Дзялендзіка — у тэатрах Бабруйска, Мазыра. І вось — прэм'ера ў сталіцы...

Валянціна СМАНЦАР

---



У Астравецкай дзіцячай школе мастацтваў наладзілі юбілейную мастацкую выстаўку дзвюх сясцёр Стурліс — Тарэсы Вароновіч ды Ірэны Герасім.

## Палёт да мары

Яны падобныя, як могуць быць падобныя толькі двайняты: з аднолькавымі рысамі твару, паставамі, рухамі і нават усмешкамі. І галоўнае — з аднолькавым на ўсё жыццё захапленнем: жывапісам.

Прафесіі ў адной і другой зусім зямныя: Тарэса працуе настаўніцай у вясковай школе, Ірэна — на чыгунцы ў Літве. Але прафесія, якая дае кавалак хлеба надзённага, і справа жыцця не заўсёды і не ва ўсіх супадаюць. Такой справай жыцця для сясцёр Стурліс з маленства і да сённяшняга дня з'яўляецца маляванне.

На выставе змясцілася толькі невялікая частка іх жывапісных работ. А некаторыя — як, да прыкладу, роспісы касцёлаў, зробленыя Тарэсай Іосіфаўнай — паказаць тут проста немагчыма. Творы Ірэны ўвогуле прадстаўленыя пераважна фотарэпрадукцыямі: перавезці карціны цераз дзяржаўную мяжу досыць складана. Але і тое, што ёсць у экспазіцыі, дае яскравае ўяўленне пра талент абедзвюх сясцёр, пра манеру пісьма, прыхільнасці кожнай. І тыя, хто пазнаёміўся з творчасцю Тарэсы ці Ірэны раней, і тыя, для каго выстаўка сталася адкрыццём іх як жывапісцаў, былі аднадушныя: карціны мастачак надзвычай светлыя — нават калі адлюстравана бура на моры або цёмная лясная рачулка, што праглядае праз засень густых дрэў. І вельмі гарманічныя — як і самі мастачкі.

На адкрыццё выстаўкі прыйшлі сябры Тарэсы ды Ірэны, прыхільнікі іх таленту дый усе, хто цікавіцца падзеямі культурнага жыцця раёна. Для некага гэтая юбілейная дэманстрацыя творчых дасягненняў сталася яшчэ адным чаканым спатканнем з творчасцю даўно знаёмых аўтараў. Хтосьці зрабіў для сябе адкрыццё: аказваецца, і сярод нас ёсць такія цікавыя, глыбокія мастакі!

Хоць Тарэса і кажа, што больш за ўсё любіць пісаць партрэты, аснову выстаўкі склалі пейзажы, якія займаюць асаблівае месца ў творчасці сясцёр Стурліс. "Свет гэтак хутка мяняецца, родныя, блізкія мясціны знікаюць, змяняюць сваё аблічча — і вельмі хочацца іх адлюстраваць на палатне, пакінуць для жыцця вечнага", — прызналася Тарэса. І яе меркаванне пацвярджаюць карціны: іншай ужо стала і "Дарога дадому", інакш выглядаюць і "Хутар Засценак", і возера Снігяны...

Ранейшай — і, здаецца, вечнай! — застаецца толькі "Дарога да мары": пара коней, палевы і гнеды, імчаць па жытнім полі – кожны мускул напружаны, здаецца, вось-вось, адарвуцца скакуны ад зямлі і ўзляцяць — насустрач сонцу.

Амаль як сёстры Тарэса Варановіч ды Ірэна Герасім у памкненні да мары...

Ніна РЫБІК

На здымку: гераіні вернісажа — сёстры Стурліс.

г. Астравец

---

## Заўтра — прэм'ера «Мефіста»!

26 і 30 чэрвеня ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры адбудуцца паказы новай пастаноўкі балета "Мефіста", які ўпершыню з'явіўся на гэтай сцэне восем гадоў таму, вылікаў цікавасць у гледача, падабаўся выканаўцам, але з-за збегу розных акалічнасцей праіснаваў у рэпертуары толькі каля трох гадоў.

Новае кіраўніцтва БДАМТ, скіроўваючы ўвагу на пашырэнне жанравай палітры тэатра, падтрымліваючы лепшыя ўзоры класікі, важнае значэнне надае развіццю айчыннага музычнасцэнічнага мастацтва. І ў рэчышчы сённяшняй рэпертуарнай палітыкі нарадзілася прапанова да калектыву: успомніць арыгінальную, незаслужана забытую, работу.

Стваральнікі спектакля "Мефіста" і артысты тэатра, асабліва тыя, хто памятае пастаноўку 2002 года, з энтузіязмам узяліся за працу. Кампазітар Уладзімір Кандрусевіч, лібрэтыст Юлія Чурко, яе сааўтар і балетмайстар-пастаноўшчык Уладзімір Іваноў, дырыжор-пастаноўшчык Мікалай Макарэвіч адмовіліся ад простага ўзнаўлення, капіравання колішняга спектакля і прапанавалі новую версію. Цяперашні вобразны свет балета "Мефіста" (Разбуральнік Душ)" адышоў ад зямных рэалій, спароджаных сучаснай камерцыялізацыяй і агрэсіўным, дэгуманізаваным бізнесам, наблізіўшыся да спрадвечнага і невытлумачальнага свету містыкі.

Зрэшты, пра новы твор мы больш падрабязна і грунтоўна пагаворым пасля прэм'еры, галоўныя партыі ў якой выканаюць Віталь Краснаглазаў (Мефіста), Рыгор Крукоўскі (Юнак), Рына Івакіры (Марго).

Святлана БЕРАСЦЕНЬ




## Слова краязнаўцы



Ігар Гатальскі з Мінска разважае пра важнасць вывучэння ваколіц сталіцы:

— Вандруючы па Беларусі, я зразумеў, што на нашай зямлі ёсць шмат цікавых мясцінаў, але часам яны знаходзяцца дастаткова далёка, і туды складана трапіць. А паколькі я жыву ў Мінску, лагічным з'явілася імкненне даследаваць ваколіцы нашай сталіцы, бо яны паступова страчваюць свой першапачатковы выгляд, асучасніваюцца, пераратваюцца ў лецішчы, ці іх Мінск паціху "забірае". Дзякуючы пошукам у бібліятэках, гутаркам з мясцовымі жыхарамі, я паступова даведваўся пра лёс многіх помнікаў. Сабраў і шмат інфармацыі, якая можа быць карыснай хіба толькі людзям дапытлівым, якім цікавы кожны каменьчык, — падмурак разбуранага храма, крыж на вясковых могілках, магіла вядомага чалавека, панскі помнік, які адрозніваецца ад астатніх надмагілляў.

Масавы турыст, чалавек, не знаёмы з гісторыяй Мінска, які трапляе ў наш горад, не адчувае яго амаль тысячагадовай гісторыі. Ёсць тут адасобленыя куточкі — Траецкае прадмесце, Верхні горад, але чалавек старонні можа і не адчуць подыху гісторыі. У ваколіцах Мінска захаваліся старажытныя сядзібы: Лошыца (ужо ўвайшла ў горад), Прылукі, палац Чапскіх, Смілавічы. І менавіта ў гэтых мясцінах раскрываецца дух гісторыі, хай не дзяржаўнага маштабу, але якраз нашай Мінскай "правінцыі".

Мінск цікавы і ў археалагічным аспекце. Каля сталіцы праходзіць вялікі чарнаморска-балтыйскі водападзел, на вяршыні якога шмат курганных могільнікаў, асобных курганоў. Гэта менавіта той кавалачак шляху з варагаў у грэкі, які тысячу год таму павінен быў пераадольвацца па сушы. Апошнім часам даведаліся пра лінію Сталіна, якая цягнецца 140 км ад Плешчаніц да Станькава. Шмат засталося дотаў, якія часткова знаходзяцца ў занядбаным стане, часткова пераўтвораны ў музеі. Гэта дастаткова цікава, бо дазваляе вывучыць некаторыя аспекты фартыфікацыі.

Вынікам маёй даследчай працы стаўся турыстычны краязнаўчы даведнік "Мінскія ваколіцы". Гэта карта, на якой паказаны сядзібы, калі ад іх штосьці засталося, курганы, могілкі, іншыя не вельмі вядомыя мясціны, — сапраўдны дапаможнік для энтузіястаў, якія імкнуцца больш даведацца пра гісторыю роднага краю. І папулярнасць даведніка паказвае, што такіх людзей шмат.

## У дапамогу вандроўніку

Зусім нядаўна ў выдавецтве "Квадраграф" пабачыў свет краязнаўчы атлас-даведнік "Паўночная Беларусь".

На картах раёнаў Віцебскай вобласці і прылеглых рэгіёнаў пазначаны не толькі папулярныя мясціны, што звычайна ўключаюцца ў даведнікі такога кшталту: храмы, сядзібы, рэшткі маёнткаў. Увага падарожнікаў звяртаецца і на звесткі пра месцазнаходжанне валуноў, якія або аб'яўлены помнікамі прыроды або самі па сабе з'яўляюцца каштоўнымі і заслугоўваюць пашаны, і на крыніцы, і на тыя мясціны, што не вельмі вылучаюцца эстэтычна, але нясуць у сабе магутную духоўную энергетыку.

Даведнік "Паўночная Беларусь" з'яўляецца своеасаблівым працягам праекта, пачаткам якому стаўся атлас "Цэнтральная Беларусь" (Мінская вобласць і часткова суседнія раёны).

Марына ВЕСЯЛУХА

Наведвальнікам Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў вёсцы Азярцо пашчасціла стаць відавочцамі і непасрэднымі ўдзельнікамі "Вяселля ў Малінаўцы". На свежым паветры, на вясковых вуліцах музея віравала весёлая стыхія свята, яна захапіла ўсіх прысутных, так што гледачоў тут не было — усе з ахвотай і захапленнем сталі персанажамі "Вяселля".





# Вяселле ў Малінаўцы

Прыгоды змянялі адна адну, а падзеі 1920-х гадоў захапілі і нашых сучаснікаў. На вясковых вулачках музея-сядзібы "ўлада", як і ў вядомым фільме, змянялася літаральна на вачах — прыходзілі "чырвоныя", іх змянялі "белыя", пасля валадарылі "анархісты". У натоўпе "сваіх" людзей зявіхалася Трындычыха, пільна сачыў за зменай улад вясковы староста Нічыпар, сваімі чырвонымі штанамі з лампасамі ўражваў "знаходка для шпіёна", ад'ютант Папандопула. Ен вёў запіс у белае войска, прытрымліваючы на баку вялізны пачак "мільённых" купюр для падтрымкі ініцыятывы. Дамы ўсіх узростаў ахвотна запісваліся ў "бабскі батальён", якім натхнёна кіраваў Яшка-артылерыст. Сваімі подзвігамі выклікаў захапленне чырвонаармеец Назар Дыла. За "чырвоных" шчыра і бясстрашна "змагаліся", размахваючы шаблямі, хлапчукі і дзяўчынкі з "сакрэтнага дзіцячага штаба". Разам з дарослымі яны шукалі скарб пана Чэчэля.

Музейны конь-прыгажун вазіў на падводзе прадстаўнікоў усіх кірункаў з адной пляцоўкі на другую. І ўсюды наведвальнікаў музея чакалі захапляючыя падзеі, жарты, гучалі песні, праходзілі розныя спаборніцтвы.

"Вяселле ў Малінаўцы" ўдалося на славу, — выказаў агульнае меркаванне адзін з удзельнікаў свята. — Нічога падобнага я не бачыў. Мне проста пашанцавала, што свой выхадны я правёў у гэтым музеі".

Свята было арганізавана супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. А само "вяселле ў Малінаўцы" таленавіта і незабыўна правялі артысты творчага калектыву "Майстэрня ўражанняў".

Ларыса САЛОДКІНА

На здымках: фрагменты свята.

Фота аўтара

# Засвір

Вёска Засвір у Нарачанскім краі — невялічкая. Тым не менш, для замежных гасцей яна прыцягальная. У прыватнасці, немецкія турысты стараюцца абавязкова наведваць могілкі сваіх суайчыннікаў, якія загінулі ў Першую сусветную вайну. Але ж галоўная прынада для турыстаў — размешчаныя тут касцёл і маляўнічыя рэшткі кляштара.

## Храм

— Толькі адно цяпер трымае Засвір ды людзей аб'ядноўвае — гэта касцёл, — запэўнівае старэйшына вёскі Тадэвуш Казіміравіч Худы. — І пенсіянеры ў храм імкнуцца, і моладзь трохі ходзіць, і з суседніх вёсак завітаюць. У нас два фэсты: на Троіцу позна вясной, як усеюцца ўсе, і на Юзафата — як убяром з поля. Памятаю з маленства, калі рабілі ў касцёле фэст, з усёй акругі збіраліся людзі, прыязджалі на конях. У кожнага ў вёсцы былі госці. Ішоў і гандаль: прывозілі пернікі, абаранкі, сухарыкі розныя. А дзецям малым так хочацца купіць! Дык яек сабраў, прадаў — і ўжо з цукеркамі.

Зазірнём у мінулае: гісторыя мясцовага храма вядзе да 1713 — 1714 гадоў, калі на грошы ўладальнікаў Зяновічаў былі пабудаваны мураваны кармеліцкі касцёл і кляштар. У 1862 годзе касцёл перарабілі ў царкву. А за польскім часам, у 1919 годзе, яго вярнулі каталікам.

З храмам звязана сумнае паданне пра трагічную гібель архітэктара (або фундатара) касцёла. Краязнаўца з Мядзельшчыны Іван Драўніцкі запісаў дзве яго версіі. Паводле адной — фундатар не ўтрымаўся на лесвіцы, калі разам з архітэктарам палез здымаць драўляны вянок, што павесілі над крыжам над галоўным франтонам у знак заканчэння работ. Паводле другой, больш рамантычнай, — архітэктар Адам палез на вышыню толькі што пабудаванага касцёла папраўляць плакат з надпісам "Гэты касцёл





пабудаваны ў гонар жонкі Яніны".

Так яно было ці не, цяпер не скажаш. Але памяць пра тыя падзеі засталася не толькі на ўзроўні падання. Яшчэ колькі дзесяткаў год таму тут захоўвалася і мумія — забальзамiраваныя астанкі чалавека.

— Расказвалі, што ляжала мумія ў шкляной труне, але ў вайну немцы забралі труну для нейкага свайго забітага афіцэра, пераклалі ў драўляную, — дадае Тадэвуш Казіміравіч.

У савецкі час даведаліся пра мумію турысты, сталі выносіць фатаграфавацца... У пачатку 1980-х гадоў было вырашана пахаваць яе на мясцовым могільніку, што і было зроблена.

Наогул, з Засвірскім касцёлам, як і з іншымі цікавымі гістарычнымі месцамі, звязана нямала паданняў. У вёсцы расказваюць і пра магчымыя хады пад храмам, і нават пра скарбы, закапаныя пад магутнымі, трохсотгадовымі дубамі.

## Ксёндз і паэт

З Засвірам звязана імя паэта, каталіцкага святара Канстанціна Стаповіча (літаратурны псеўданім — Казімір Сваяк), 120-ю гадавіну з дня нараджэння якога адзначылі сёлета. Атрымаў ён прызначэнне ў мясцовы храм у 1920 годзе, стаў першым пробашчам пасля аднаўлення касцёла. Тут практычна і прайшлі астатнія гады жыцця, якое абарвалася ў самым росквіце з-за хваробы (памёр ён у 1926 годзе). Казімір Сваяк вядомы сваёй нацыянальна-адраджэнскай дзейнасцю. Вось і ў Засвіры стараўся ўздымаць статус роднай мовы, выкарыстоўваў яе ў святарскай дзейнасці. Пісаў: "Людзі прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, вось дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай..." Не дзіва, што вакол Казіміра Сваяка гуртавалася мясцовая моладзь, інтэлігенцыя. Так, з паэтам сябраваў, прыязджаў у госці вядомы мастак Язэп Драздовіч. На памяць пра гэта засталося некалькі малюнкаў, сярод іх і "Сваякоў ганак". На ім — выява ганку, на прыступках якога любіў сядзець святар.

Засвірскі перыяд стаў адметным у творчай біяграфіі паэта. Якраз у гэты час была выдадзена ў Вільні адзіная прыжыццёвая кніга Казіміра Сваяка "Мая ліра".

Прыемна, што мясцовыя людзі захоўваюць памяць пра свайго святара-паэта — у касцёле ёсць памятная шыльда ў яго гонар.

Алесь ВЫСОЦКІ

На здымках: Засвірскі касцёл і муры кляштара.; вось якія магутныя дубы захаваліся ля Засвірскага касцёла.

Фота аўтара

## Культура слова

# Купля, купец

Пакупка, пакупнік — усё часцей спатыкаюся аб гэтыя словы не толькі ў беларускамоўных газетах, але і ў творах некаторых нашых пісьменнікаў: дзякуй за пакупку, пакажы сваю пакупку, пераборлівы пакупнік... Але ж гэта не нашы, не беларускія словы, яны жыўцом узяты з рускай мовы. Прытым без ніякай патрэбы. Рускае покупать у нас адназначна разумеецца як пакупаць каго-небудзь (дзіця, сабачку) у вадзе. І не больш!

Замест слова покупка ў нас скажуць проста купля: "пакажы сваю куплю", "якая ўдалая купля", "дзякуй за куплю". Чым кепска гучыць гэтае слова ў любым кантэксце? Ды і нашы выдатныя пісьменнікі бралі яго ў свае творы. Я напаткаў яго, прыкладам, у "Сокаах цаліны" Цішкі Гартнага: ("Зрабіў куплю..."), ва ўспамінах "Яшчэ незабытае" Ларысы Геніюш ("Што да дзедавых купляў..."). Тым не менш "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" падае слова купля толькі як "дзеянне паводле дзеяслова купляць — купіць". І ўсё! Так бяздумна збядняем мы сваімі ўласнымі рукамі нашу беларускую мову.

Цяпер — пра пакупнік. Чаму цягнуць яго ў нашу мову, калі ў нас ёсць сваё спрадвечнае слова — купец (у розных значэннях)? У тым ліку — як чалавек, які нешта купляе. Звычайным было яно ў гэтым значэнні ў Кузьмы Чорнага: "Вайсковец абагнаў яго і першы ўвайшоў у кухню, а купец гукнуў з ганку прадаўцу..." ("Трыццаць год"), у Івана Мележа: "Етэ ж шчэ не базар, — пераканана прамовіў Чарнушка. — Базар шчэ будзе!.. Купцы самыя шчэ чай дома п'юць..." — "Дз тут ужэ е купец..." — "Мала што е! Мы паглядзім шчэ, хто лепшы купец" ("Людзі на балоце"), у Алены Васілевіч: "Трэба прадаваць Цыганку... Ужо і купцы наведваліся" ("Расці, Ганька"). Падае гэтае слова і "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі", прыводзячы прыклад з Браслаўскага раёна: "Еслі на базары палавіну цаны даець — гэта купец, а еслі і палавіны не даець за тавар — гэта не купец". Ёсць яно і ў "Краёвым слоўніку ўсходняй Магілёўшчыны" Івана Бялькевіча з такім прыкладам: "Купец найшоўся на карову: дзвесце сорак рублёў даець".

З поўначы на поўдзень, з захаду на ўсход як хадзіла, так і ходзіць па Беларусі гэтае слова, жыве сярод людзей, а вучоныя людзі пастараліся спісаць яго з ужытку, прыляпіўшы да яго зняважлівую плямбу "уст.", г.зн. устарэлае. А трохтомны "Русско-белорусский словарь" ужо зусім не пусціў яго на свае старонкі, змушаючы беларусаў ламаць язык і душыцца чужароднымі — пакупнік, пакупка.

Круцячыся ў рускамоўнай стыхіі, мы так звыкаемся з гэтакімі русізмамі, што свае, прыродныя, словы здаюцца ўжо нам "не тымі", нечым зблажэлымі. Што тут казаць, колам воза лягчэй каціцца па добра ўезджаных, хоць і чужых, каляінах, чым зноў зварочваць на заросшыя быллём занядбанасці свае спрадвечныя. Але мы павінны вярнуцца на іх, калі хочам застацца беларусамі. Свае прыродныя словы станучь тады звычнымі і мілагучнымі для нашага вуха, калі не суседняя, а родная мова будзе кожны дзень на вуснах у беларуса.

Кастусь ЦВІРКА

Супрацоўнікі РВУ "Літаратура і Мастацтва" шчыра віншуюць свайго сябра і сталага аўтара, вядомага гісторыка, літаратара і публіцыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Анатоля Мяснікова з 60-годдзем з дня нараджэння і зычаць яму плёну, натхнення, здароўя на доўгія і доўгія гады.

# Пазначана словам «Упершыню»…

## Верныя сыны Бацькаўшчыны

**Многае, вельмі і вельмі многае, сабранае, сказанае ці зафіксаванае гэтым чалавекам, можа і павінна быць пазначана словам "Упершыню". Ён першым прысвяціў асобныя нарысы і даследаванні многім беларускім гарадам і мястэчкам, сабраўшы і апублікаваўшы іх потым у сваіх працах "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі", "Беларускія народныя павер'і", "Народныя прыказкі з тлумачэннем паходжання і значэння іх", "Заходнерускія нарысы", "Мазыршчына", "Нарысы Жмудзі", "Паездка ў заходнія губерні" і інш. Яшчэ ў 1845 годзе ён склаў першы слоўнік і граматыку беларускай мовы "Слоўнік і караняслоў беларускай гаворкі"… Першым выказаў думку і пра тое, што менавіта Мінску наканавана ў будучым роля галоўнага горада Беларусі…**

На жаль, шчырая, самаахвярная і такая патрэбная нам, беларусам, праца, яе вынікі і тады, у сярэдзіне XIX стагоддзя, і цяпер, на пачатку XXI, у нашым грамадстве зусім не ацэнены. Між тым, высновы і меркаванні Паўла Міхайлавіча Шпілеўскага ў многіх сферах духоўнай дзейнасці — этнаграфіі, краязнаўстве, фалькларыстыцы, прыгожым пісьменстве, публіцыстыцы, тэатральнай крытыцы — па-ранейшаму актуальныя і патрэбныя.

Паходзіў Павел Шпілеўскі з сям'і рэлігійнага дзеяча, а нарадзіўся 12 лістапада 1823 года ў вёсцы Шыпілавічы Бабруйскага павета Мінскай губерні. Для свайго часу малады чалавек атрымаў проста бліскучую адукацыю: у 1843-м скончыў Мінскую духоўную семінарыю, а яшчэ праз чатыры гады — Пецярбургскую духоўную акадэмію. Наступныя гады – з 1847-га па 1853-і — прысвяціў выкладанню славеснасці ў Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы. З 1853-га Павел Міхайлавіч у Пецярбургу — тагачаснай расійскай сталіцы. Там ён выкладаў у Галоўным педагагічным інстытуце, настаўнічаў у школе пры Экспедыцыі падрыхтоўкі дзяржаўных папер. На вялікае няшчасце, жыць яму заставалася вельмі нямнога: у 1861-м, усяго толькі на 38-м годзе жыцця, Павел Шпілеўскі пакінуў гэты свет…

Вялікую ахвоту і прыязнасць да даследавання і вывучэння роднай старонкі Павел праявіў вельмі рана — яшчэ падчас вучобы ў Мінскай духоўнай семінарыі. Ужо пазней у сваёй ці не лепшай і самай бліскучай працы "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках" ён напісаў: "Мне ўспамінаюцца тыя цудоўныя дні, поўныя радасці, якую нельга апісаць і якая зразумелая толькі таму, хто сам гэта перажыў, дні, калі я спяшаўся на канікулы з губернскага горада ў аддалены павет і мог з поўнай свабодай раз'язджаць па вёсках і сёлах, дзе па нейкай моцнай неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных павер'яў і казак прыслухоўваўся да гукаў гарманічнай, пявучай беларускай мовы, запісваў словы і расказы з вуснаў сялян, баянаў-самавукаў і знахароў, прабіраўся ў беларукія хаты і клеці, знаходзіў задавальненне ў гутарцы за сціплай вясковай трапезай з сівымі старымі і маршчыністымі бабкамі…".

Гэта яны, "сівыя старыя і маршчыністыя бабкі", сталі для зусім яшчэ юнага даследчыка роднай беларускай нацыянальнай культуры самымі першымі і галоўнымі дарадчыкамі, настаўнікамі-практыкамі, старэйшымі сябрамі. Менавіта ад іх пачуў, занатаваў і апрацаваў потым Павел Шпілеўскі тысячы беларускіх слоў, выслоўяў, прыказак і прымавак, сотні казак, паданняў і песень, апісанняў абрадаў, звычаяў, рэлігійных і святочных рытуалаў…

Ён быў ці не самым першым з тых, хто ў мастацка-папулярнай форме пазнаёміў шырокую грамадскасць Расійскай імперыі з багатай вусна-паэтычнай творчасцю нашага таленавітага народа, яго побытам і тагачаснымі ўмовамі жыцця. У згаданай вышэй працы "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках", у іншых сваіх выданнях Шпілеўскі творча перапрацоўваў і перакладаў на рускую мову шматлікія народныя творы, і найперш — казкі. Менавіта тады, у сярэдзіне XIX стагоддзя, многія беларускія народныя казкі, так бы мовіць, з падачы маладога даследчыка і этнографа, атрымалі вядомасць і шырокае прызнанне на неабсяжных прасторах Расіі.

Яго моцна абурала і ўзрушала тое, што тагачасныя калегі-вучоныя практычна не звярталі ўвагі на вывучэнне побыту беларускага народа. "Нас цікавяць паданні і вераванні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам пра іх норавы, міфалогію, мову, нават балы і абеды, — з гневам пісаў ён, — чаму ж не напісаць аб роднай Беларусі, такой багатай самабытнымі норавамі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, гульнямі і святамі". Звярнуўшыся з такім своеасаблівым заклікам да калег, Павел перш за ўсё сам паказваў прыклад таго, як, у якім кірунку і якімі метадамі можна і трэба працаваць і дзейнічаць.

У 1845 годзе 22-гадовы навучэнец Пецярбургскай духоўнай акадэміі Павел Шпілеўскі перадае Аддзяленню рускай мовы Расійскай Акадэміі навук складзены ім слоўнік беларускай мовы і граматыкі. Свяцілам расійскай славеснасці ён мог спадабацца, а мог і не: з аднаго боку — распрацоўка цікавая; з другога, на іх думку, — не надта актуальная… Як бы тое ні было, аднак і да сённяшняга дня лёс слоўніка невядомы: хутчэй за ўсё, ён "дзесьці" згубіўся ў аналах папер Расійскай Акадэміі. Аднак сам факт наяўнасці яго засведчыў адназначна: малады беларус узяўся за сур'ёзную карпатлівую справу, якая і насамрэч не дужа цікавіла Аддзяленне рускай мовы РАН, але ж была проста неабходная нашаму беларускаму народу.

У наступным, 1846 годзе, Шпілеўскі пачынае друкаваць сваё вельмі важнае і грунтоўнае даследаванне "Беларускія народныя павер'і". Яно выдавалася ажно да 1852 года.

Напрыканцы 1853-га Павел Міхайлавіч нечакана для сяброў і знаёмых пакідае ўтульную, але такую нязвыклую для яго асабіста расійскую сталіцу і накіроўваецца ў падарожжа-экспедыцыю па роднай Бацькаўшчыне. Ён задумаў надзвычай цікавы і незвычайны праект, разлічаны на тры гады. За гэты час Шпілеўскі аб'ездзе і абыдзе з канца ў канец ажно тры беларускія губерні: Гродзенскую, Мінскую і Віцебскую. Адначасова пачынае друкаваць сваё самае галоўнае навуковае і пазнавальнае даследаванне — працу пад назвай "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі", якая ўключае 13 гісторыка-этнаграфічных і публіцыстычных нарысаў аб нашай старонцы. Побач з уласнымі ўражаннямі аўтара аб краявідах мы знаходзім і гістарычныя звесткі пра многія населеныя пункты. Апісанне побыту і штодзённага жыцця беларускага сялянства мяжуе з фальклорам — народнымі песнямі, казкамі, паданнямі. І ўсё гэта пададзена арганічна, тонка і надзвычай вобразна.

На працягу трох гадоў — з 1853-га па 1856-ы — Павел Міхайлавіч публікаваў сваю яшчэ адну значную працу — "Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках". 16 нарысаў-раздзелаў, што ўключаны ў яе, дазваляюць яшчэ раз шырэй і глыбей пазнаёміцца з побытам і вуснапаэтычнай творчасцю нашага народа ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Дзелячыся ўражаннямі аб трохгадовым падарожжы па Бацькаўшчыне і шматлікіх сустрэчах з землякамі, Шпілеўскі пісаў: "…Я люблю гэтых добрых людзей, я знаходзіў радасць у іх павольнай размове, у іх песнях, прыказках, прымаўках. Колькі новага, невядомага мне за школьнай партай, я даведаўся ў гэтым народным вучылішчы, багатым разнастайнымі прадметамі і навукамі аб роднай зямлі і мове, аб старажытным жыцці-быцці продкаў…".

Усе без выключэння яго творы напоўнены гарачай сыноўняй любоўю да Бацькаўшчыны, да беларускага народа. Павел Міхайлавіч абараняў у іх самабытнасць і права на самастойнае і незалежнае існаванне беларускай мовы, якая, як вядома, у той час асабліва прыцяснялася і пераследавалася нават на спаконвечных беларускіх землях; сцвярджаў і папулярызаваў лепшыя маральныя якасці беларусаў, верыў у іх вялікія магчымасці і невычэрпны патэнцыял. Усё гэта служыла развіццю самасвядомасці і выхаванню пачуццяў асабістай годнасці беларускага народа.

Найбольш спачувальна ставіўся Павел Шпілеўскі да беларускага сялянства, з глыбінь якога ён паходзіў сам. Будучы таленавітым этнографам, пісьменнікам і публіцыстам, ён адзначаў яго працавітасць, уменне пераадольваць цяжкасці, сціпласць, бескарыслівасць… Павел Міхайлавіч пераконваў, што беларусы заўсёды імкнуцца да ведаў, авалодання навукай, мастацтвам, адпрэчваючы гэтым самым пазіцыі рэакцыйнай прэсы аб тым, што наш народ, нібыта некультурны і не імкнецца да адукацыі.

Набыткі і здзяйсненні Паўла Шпілеўскага высока цаніў і паважаў вядомы расійскі літаратар і рэвалюцыйны дэмакрат Мікалай Чарнышэўскі. Гаворачы аб кнізе "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі", ён найперш адзначыў яе навуковую каштоўнасць, а ў аповесці Паўла Міхайлавіча "Цыганя" ацаніў "уменне аўтара гаварыць з дзецьмі…". Дарэчы, апроч гэтай аповесці, сярод чытачоў папулярнасцю карысталіся драматычныя творы Шпілеўскага, і перш за ўсё — п'еса "Дажынкі", а таксама многія артыкулы, прысвечаныя тагачаснаму тэатральнаму і літаратурнаму жыццю.

У даследчыцкіх, публіцыстычных і літаратурных творах Паўла Шпілеўскага ўпершыню прыведзены і многія, раней невядомыя, лічбы і факты з гісторыі Вялікага княства Літоўскага, узноўлены іншыя дадзеныя з жыццядзейнасці беларускага народа на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў. У шырока вядомых тады ў Расійскай імперыі часопісах "Современник", "Сын Отечества", "Пантеон", "Иллюстрация", газеце "Русский мир" і іншых перыядычных выданнях Павел Міхайлавіч выступаў не толькі пад сваім сапраўдным прозвішчам, але і пад псеўданімамі Драўлянскі, Барон Ікс, Знаёмы чалавек. Ён узнімаў і аналізаваў многія вострыя і актуальныя праблемы грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця сваёй Бацькаўшчыны. І нельга не пагадзіцца з высновамі асобных даследчыкаў аб тым, што з часоў Францыска Скарыны тэма беларускага патрыятызму не гучала з такой зычнасцю і грамадзянскім пафасам, як у ягонай творчасці — надзвычай змястоўнай і разнастайнай.

У "Падарожжы па Палессі і Беларускім краі" наш слынны зямляк пісаў: "У гады маленства я і не ўяўляў, што некалі, гадоў праз дваццаць, буду вывучаць, ці, дакладней, давучваць, родную сваю мову і дзеля гэтага падарожнічаць па тых самых мясцінах, якія такія дарагія для мяне ўспамінамі аб шчаслівым мінулым. Цяпер надышла для мяне пара выкарыстаць дзіцячае знаёмства з гэтай старажытнарускай мовай, на якой гаварылі галоўныя плямёны славяна-рускія: крывічы і дрыгавічы, і на якой пісалі на Русі многія акты і дагаворы, нават Літоўскі статут. Спатрэбіліся і казкі, пачутыя ў дзяцінстве, і прымаўкі, і прыказкі, і розныя павер'і аб духах, ведзьмаках, чараўніках і страшыдлах… Тое, з чаго раней у нас смяяліся і лічылі не больш як пацехай — лакейскай і дзявочай — у памешчыцкіх хутарах, тое цяпер прыцягвае ўвагу вучонага рускага свету, за тое цяпер узяліся сур'ёзна і разумна ў вучоных кабінетах і на кафедрах… І не дзіва! Беларуская мова, паданні, павер'і і казкі беларусцаў вартыя таго: беларуская мова такая самастойная, такая характарыстычная ў археалагічных і філалагічных адносінах, паданні, павер'і і казкі іх такія арыгінальныя, да таго напоўненыя першабытнай, старажытнай паэзіяй славяна-рускай, што пры цяперашнім напрамку і развіцці ў нас філалогіі і археалогіі становіцца неабходным даследаваць і шукаць галоўны прытулак старажытнай рускай славяншчыны і пазнаёміць выразна з роданачальнымі яе элементамі, што захаваліся ў Беларусі"... Напісана звыш 150 гадоў назад, а гучыць надзённа і сёння!

Анатоль МЯСНІКОЎ



На здымку: Чарэйская царква.

# Помнікі Чашніцкага краю

Шмат гістарычных падзей звязана з Чашніччынай, безліч войнаў і іншых бедстваў пракаціліся па ёй. Яшчэ і цяпер сялянскі плуг можа вывернуць на паверхню каменнае альбо жалезнае ядро, наканечнік дзіды ці заржавелыя гільзы ад патрона ці снарада, а часам і цэлыя боепрыпасы.

Чашніччына была поўнасцю заселена людзьмі толькі ў эпоху мезаліту, бо менавіта па яе тэрыторыі праходзіла мяжа апошняга ледавіка. На тэрыторыі Чашніцкага раёна знаходзяцца 44 помнікі археалогіі, у тым ліку 16 — рэспубліканскага значэння.

Найбольш значным з'яўляецца Лукомскае гарадзішча, на якім з X ст. існаваў горад Лукомль, цэнтр Лукомскай воласці. Праўда, шматгадовыя археалагічныя раскопкі сведчаць пра тое, што людзі жылі на гарадзішчы з пачатку нашай эры. У X ст. гэта быў ужо буйны эканамічны і палітычны цэнтр Полацкага княства. Лукомль адыгрываў важную ролю ў жыцці нашай краіны на працягу многіх стагоддзяў. Не адзін раз Лукомль бачыў пад сваімі сценамі войскі непрыяцеля, неаднаразова ён быў спалены. Пасля апошняга разбурэння Лукомскага замка ў 1563 г. маскоўскімі войскамі Івана Грознага горад паступова страчвае сваё ваенна-палітычнае і эканамічнае значэнне і ператвараецца спачатку ў мястэчка, а потым у вёску. Час і людзі не пашкадавалі ні замка з магутнымі мурамі, ні праваслаўнага манастыра, які існаваў у Лукомлі з канца XIV ст.

Другое не менш славутае месца на карце раёна — знакамітая Свята-Троіцкая царква, якая знаходзіцца непадалёк ад вёскі Чарэя. Гэты выдатны помнік эпохі барока пабудавалі ў канцы XV ст. па загадзе і на грошы вядомага дзяржаўнага дзеяча, канцлера ВКЛ, аўтара Статута 1588 г. Льва Сапегі, якому належалі Чарэя і навакольныя землі.

Яшчэ Чашніччына — радзіма славутага сына беларускага народа, асветніка і друкара Васіля Цяпінскага. На месцы яго былой сядзібы ўстаноўлены памятны камень.

Ганна ГРЫБКО

Саюз пісьменнікаў Беларусі і РВУ "Літаратура і Мастацтва" смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці былога супрацоўніка Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў Беларусі Пятра ЛІПАЯ і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

Савет грамадскага аб'яднання «Беларуская бібліятэчная асацыяцыя» выказвае глыбокія спачуванні старшыні Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Чуевай Наталлі Станіславаўне з прычыны напаткаўшага яе гора — смерцю МАЦІ.

РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне кансультанту аддзела кадраў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Броўчанцы Аксане Валянцінаўне з прычыны смерці МАЦІ.

# Адхіліўшы чорны квадрат

"Прамавугольнікі Несцерава, або Экалогія душы" — такую назву мае персанальная выстаўка мастака, лідэра творчага аб'яднання "Арцель" Рыгора Несцерава, якая гэтымі днямі экспануецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і прысвечана Сусветнаму дню навакольнага асяроддзя. Яго творы светлыя, чыстыя, вылучаюцца сярод іншых, іх адразу пазнаеш. Работы — спроба адлюстраваць тую прыгажосць, пяшчоту і душэўнасць, якая вакол нас, звярнуць увагу людзей на тое, як далікатна і складана ўладкаваны гэты свет, што яго трэба захаваць. Р. Несцераў робіць значны ўнёсак у шматгранную палітру беларускага выяўленчага мастацтва. Такімі словамі акрэслілі творчасць мастака падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандр Зіменка, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца і іншыя прысутныя. Дадзены вернісаж стаўся добрай нагодай пагутарыць з самім мастаком.



— Рыгор Абрамавіч, вы нарадзіліся ў Падмаскоўі, а як апынуліся ў Беларусі?

— Мае бацькі жылі ў Беларусі. Бацька нарадзіўся тут, вучыўся ў Віцебску ў Юдаля Пэна, у якога таксама вучыўся Шагал. Але лёс склаўся так, што бацька атрымаў прафесію інжынера ў Маскве. А сам я нарадзіўся ў Люберцах.

— Пераехаўшы ў Беларусь, як вы ўспрынялі беларускае мастацкае асяроддзе, традыцыі, набыткі, культуру?

— Дакладней сказаць, мы не пераехалі, а вярнуліся. Я быў яшчэ дзіцем, таму для мяне ўсё было ўспрынята натуральна. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Беларуская школа жывапісу лічыцца дастаткова моцнай, гэта заўважалі калегі з Расіі і іншых краін. Ды і гісторыя мастацтва гэта пацвярджае.

Хоць я палемізую з Малевічам, але ж ён — з'ява беларуская, працаваў у Віцебску. Яго "Чорны квадрат" — спроба не толькі адмяніць жывапіс і мастака, але і адмяніць свет з усёй яго разнастайнасцю і прыгажосцю, закрыць яго чорным экранам адмаўлення. Даволі даўно я ўзбунтаваўся супраць гэтага погляду на рэчы, захапляўся філасофіяй, шукаў памылку ў гэтым светапоглядзе. Так, нараўне са святлом, гармоніяй, любоўю ёсць няўдачы, боль, драма, цёмныя месцы і тупікі. Але, каб вырвацца з іх, мы павінны бачыць перспектыву, мэту, верыць і ведаць, што жыццё можа быць палепшана. Адхіліўшы чорную заслону, прыбраўшы чорны экран, мы ўбачым бліскучы свет: прыроду, жывёл, людзей, якія маюць патрэбу ў нашай падтрымцы, як і мы ў іх. Зразумеў, што ўвогуле ёсць і іншая рэальнасць акрамя чорнага квадрата. Адным словам, багаты, размаіты і рознакаляровы свет. Адсюль ўзнікла крыху вар'яцкая, як і ў Малевіча, ідэя абвясціць жывапіс жывапісам. У палемічным запале назваў гэта "прамавугольнікамі Несцерава", імкнучыся тым самым вярнуць адмененага Малевічам мастака, культуру, майстэрства, гісторыю, пачуцці, прыгажосць... Аднавіць страчанае адзінства матэрыі і духу.

— Шэсць гадоў таму створана творчае аб'яднанне "Арцель", у якое ўвайшлі розныя па жанрах, манеры пісьма, напрамках творчасці мастакі. Можа, у дзейнасці Беларускага саюза мастакоў чагосьці не хапае, таму і ўтвараюцца новыя суполкі аднадумцаў?

— На дзейнасць саюза ніякіх нараканняў няма. Атрымалася так, што напачатку я выбіраў мастакоў не для сябе, бо ніколі не заняўся б гэтай справай. Мяне папрасіў адзін чалавек падабраць мастакоў для аб'яднання, так бы мовіць, для сваіх мэт. Падабраў, знайшоў спонсараў для выдання буклета, выставачную пляцоўку. Наша першая экспазіцыя ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва мела поспех. Але той чалавек быў для нас не вельмі прыдатны. Шкада было кідаць групу, якую сабраў, бо збіраў не па ўзроставых прынцыпах, не па прыналежнасці да стылю, а розных людзей, як ў хоры: розныя галасы, а разам ствараюць не какафонію, а гармонічны спеў.

Вельмі важна мець такія якасці, як мастацкая праўдзівасць, сумленнасць. Мастак павінен ствараць найперш не для публікі, не для народа, а для свайго сумлення, душы, Бога. Вось тады гэта будзе мець каштоўнасць і для грамадскасці.



Апошнія гадоў дваццаць многія прывыклі дагаджаць народу, прадбачыць, адгадваць яго жаданні: эстрада, папса, маскультура. Ідзе раўненне не на самых таленавітых, прафесійных, шчырых людзей, а на нейкую фальшыўку. Сам народ ужо не жадае гэтага, а яно ўсё працягваецца, насаджаецца. Яму патрэбныя сапраўдныя творцы, урачы, інжынеры, арганізатары і інш., тыя, хто на сваім месцы, а не ганяецца за галасамі народа, каб яму дагадзіць, бо на самай справе атрымліваецца горш.





Так і я адбіраў мастакоў: не важна, мужчына гэта ці жанчына, сталы ці малады чалавек. Самае галоўнае — талент. Ён або ёсць, або яго няма. І ён можа быць ці не быць у любым узросце.

— Членаў "Арцелі" аб'ядноўвае шчырасць, прафесіяналізм, талент, праўдзівасць...

— А яшчэ майстэрства немалую ролю адыгрывае, бо не перадасі дакладна і адэкватна тое, што ўспрымаеш.

— Па вялікім рахунку, большасць мастакоў звяртаецца да прыроды, экалогіі. Вы абралі тэму экалогіі галоўным кірункам у сваёй творчасці?

— Усіх нас цікавіць прырода, чалавек, мы не абыякавыя да жывёл і г.д. Экалагічная сітуацыя мяне хвалюе, і нездарма ў назве выстаўкі ёсць словы "экалогія душы". Справа ў тым, што навакольным асяроддзем для нас з'яўляецца не толькі свежае паветра, зямля, вада, але і чалавек, які стварае гэта асяроддзе сам для сябе, часам спрыяльнае або невыноснае. Забруджванні робім мы самі, калі думаем, што, напрыклад, выгадней, танней ды прасцей зрабіць такое прадпрыемства, дзе зможам зэканоміць нейкую капейчыну за кошт прыроды. Але ж гэтым самым псуём жыццё дзецям, унукам, самім сабе. Недальнабачны погляд. Увесь час ідзе перагібанне палкі то ў адзін бок, то ў другі.

— Можна сказаць, што экалогія душы для вас — грамадзянская пазіцыя?

— З аднаго боку, магу так сцвярджаць. А з другога, нельга пражыць жыццё гарманічна, роўна, увесь час ісці па правільным шляху. Жыццё заносіць то ўправа, то ўлева. Савецкі час, перабудова... Людзі ідуць натоўпам. Кірунак, можа быць, і правільны, але заўсёды непазбежныя перакосы. І на шляху інтэрнацыяналізму можна страціць свае карані, выйсці ў беспаветраную прастору. Таксама нельга замыкацца ў межах сваёй краіны, абмяжоўвацца парканам.

Мы ніколі не абыдземся без сусветнай культуры, без таго, што было ў мінулым. Чаму мы павінны адмаўляцца ад "сярэбранага веку", які называюць рускім, а гэта і наш, беларускі, і нашы творцы бралі ўдзел: В. Бялыніцкі-Біруля, С. Жукоўскі... Старажытныя Егіпет, Кітай, Грэцыя, Рым, шумеры, французскі жывапіс, нямецкая філасофія, англійская літаратура... Як мы можам жыць без усіх гэтых набыткаў і дасягненняў! Сусветная культура ўсё роўна будзе з намі, нават калі мы захочам заткнуць вушы, заплюшчыць вочы.

— Рыгор Абрамавіч, а ў вас ёсць хатнія жывёлы?

— Быў сабака, а цяпер котка. Увогуле, каты ў нас увесь час былі.

— Запытаўся пра гэта таму, што ў вас шмат карцін з выявамі разнастайных жывёл...

— Гэта невыпадкова. Прыкладам, у мяне былі перыяды, калі я пісаў толькі нацюрморты (з непрыгожай бульбай, морквай з савецкага магазіна гародніны), потым год пісаў свае аўтапартрэты, але ж каму яны патрэбныя. Гэта было як адмысловыя практыкаванні, бо выходзіў да свету праз разуменне самога сябе. Потым з'явілася ідэя рэінкарнацыі. На мяне аказала ўплыў індыйская філасофія, і работы з выявамі жывёл уваходзяць у мой вялікі цыкл "Рэінкарнацыя".

Веру, што свет адзіны, мае цела не абмяжоўваецца тым, што бачна, яно — увесь свет. Душа быццам бы адна, але зліваецца з агульнай душой. Для мяне любы чалавек, жывёла, дрэва, пейзаж — гэта мая другая іпастась. Імкнуся нічога не выдумляць, убачыць вобраз, прыкладам, нейкай жывёлы, унутры сябе. Справа ў тым, каб напісаць партрэт іншага чалавека, мастак, нават калі пра гэта і не думае, ён як бы ўваходзіць у яго вобраз. Гэтым і дасягаецца не толькі знешняе, а і ўнутранае падабенства.

Да слова, у кастрычніку будзем ладзіць арцельную выстаўку, прысвечаную Сусветнаму дню абароны жывёл.

— Шмат хто, пабачыўшы вашы карціны, адзначае, што ад іх зыходзіць пяшчота, цеплыня, станоўчая энергетыка.

— У 1991 годзе ў мяне была персанальная выстаўка ў маскоўскім Цэнтральным доме мастака. Сярод іншых, яе наведвалі экстрасенсы, дактары і прапаноўвалі надрукаваць з маіх работ фотаплакаты, каб лячыць дэпрэсіўныя станы сваіх пацыентаў. Сфатаграфавалі, але безвынікова, таму што жывапіс вельмі рэдка паддаецца "фотавоку".

У Маскве я тады ўпершыню выставіў сваю карціну "Знесеныя ветрам" (гэту работу можна пабачыць у экспазіцыі ў НММ Беларусі — аўт.). Некаторыя лічылі, што на ёй увогуле нічога няма: белае на белым. А іншыя ў маіх туманавых пейзажах бачылі канкрэтныя месцы і хацелі ўдакладніць, у Кунцаве ці недзе яшчэ я гэта маляваў. Адказваў, што пейзажы пісаў у Беларусі. Прыемна, калі стан душы гледачоў сугучны работам. А для гэтага карціны павінны быць шчырымі, праўдзівымі.

Заўсёды адлюстроўваю той свет, які ў мяне ў самога ў душы, дзе супастаўляюцца пэўныя моманты майго жыцця. Бывае выдатнае сонечнае надвор'е, але здарылася бяда. Гэты вобраз надалей заўсёды будзе чорнай плямай выплываць з памяці. Ці наадварот, у шэры, золкі кастрычніцкі дзень надараецца нешта вельмі прыемнае, і гэты дзень па жыцці будзе ззяць асляпляльным святлом.

Хачу дадаць, што амаль 40 год займаюся тэмай даследавання гісторыі сусветнай культуры. Зачытаўшы некаторыя ўрыўкі сваёй жонцы (пісьменніца Алена Папова — аўт), тая сказала, што гэта можа быць цікава людзям і трэба напісаць кнігу. Над чым цяпер і працую: першыя паўдня займаюся жывапісам, другія — пішу кнігу.

— Вы выстаўляліся ў шматлікіх прэстыжных замежных галерэях, экспанаваліся ў розных выставачных залах Мінска... Што для вас значыць выставіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі нашай краіны?

— Зразумела, для мяне гэта гонар. Тут сама прастора прасякнутая класічнай аўрай, выдатнае асвятленне. Чуў багата станоўчых водгукаў як ад людзей мастацтва, так і ад простых наведвальнікаў. Упэўнены, мастак не той, хто ўмее маляваць, а той, хто бачыць і здольны ўбачанае ўвасобіць. Да сваіх работ стаўлюся крытычна, прыдзірліва. А ў карцінах іншых мастакоў заўсёды імкнуся знайсці толькі станоўчыя рэчы, радуюся іх поспехам.

На жаль, адчуваю недахоп сапраўднай культуры ў грамадстве. Чалавек культуры не займае сёння годнага становішча. Гэта непавага да таленавітых людзей, да заўтрашняга дня. Культура — агульнанацыянальная, агульнадзяржаўная справа, і трэба падымаць яе прэстыж.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Рыгор Несцераў і яго карціны "Касмічнае цела", "Прысутнасць", "Гэта я!".

Фота аўтара

Шматлікія сябры, калегі, родныя, блізкія, прыхільнікі мастацтва Мацвея Басава прыйшлі ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі на яго персанальную выстаўку, прысвечаную 60-гадоваму юбілею мастака "Жывапіс разнастайнасці".



# Ён любіць... маляваць!

— Так называецца экспазіцыя, нямала твораў, завершаных менавіта сёлета. І яны радуюць вока, адкрываюць усё новыя старонкі таленту выдатнага майстра пэндзля.

...На маленькім зэдліку закаханыя перажываюць кароткія імгненні шчасця. Гледзячы на гэтую карціну, няцяжка здагадацца, што яе сюжэт звязаны з жыццём у час Вялікай Айчыннай вайны ў гета. Мастак з асаблівай цеплынёй, шчырасцю ўвасабляе вобраз кахання, якое перамагае нават смерць. А ён жа нарадзіўся пасля вайны і маляваў пад уражаннем ад успамінах сваіх бацькоў, дзядулі, бабулі. У яго творах, як у жыцці, нягледзячы на трагедыю, людзі працягваюць жыць, маліцца, кахаць...







...Хлопчык рана пачаў займацца маляваннем. Яго бацька, знаны мастак І. Басаў, прывёў шасцігадовага Мацвея да настаўніка многіх вядомых жывапісцаў — С. Каткова. Сяргей Пятровіч складваў малюнкі Мацвея ў асобую папку. А потым даслаў іх на Міжнародны конкурс дзіцячага малюнка ў Італію. І хлопчык з Беларусі атрымаў там за сваю творчасць бронзавы медаль — першую сур'ёзную ўзнагароду. Гэтая высокая адзнака яго таленту акрыліла юнага мастака, ён з натхненнем працягваў маляваць.

У пошуку фарбаў Мацвею дапамагалі бацька і першы настаўнік. З гадамі выявілася менавіта незвычайная выразнасць, музычнасць яго колеравай палітры, а яшчэ — тонкая філасофія як стан яго душы Мацвея Басава. Потым была вучоба ў мастацкай школе і ў Мінскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы імя А. Глебава. У 1988-м таленавітага жывапісца прынялі ў Беларускі саюз мастакоў. З 1981 года Мацвей Басаў узяў удзел больш як у ста рэспубліканскіх, усесаюзных, міжнародных выстаўках у роднай Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы, Эстоніі, Германіі, Аўстрыі, Бельгіі, Нідэрландах, Францыі, ЗША, Швейцарыі, Канадзе, Даніі. Творы М. Басава знаходзяцца ў фондах Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, і нашага Нацыянальнага гістарычнага музея, а таксама ў многіх музеях свету, дзе адбываліся яго выстаўкі.

Біблейская тэма ў творчасці мастака — адна з галоўных. Бог быццам падказвае яму святыя і светлыя сюжэты. А яшчэ ён любіць маляваць пейзажы, цёплыя, лірычныя. З захапленнем піша прыгожую, казачную беларускую прыроду — лес, восеньскія бярозкі, яблыневую квецень, колеры вясны. Звычайная — але незвычайная зеляніназзяе ў яго незвычайным святлом. Гледачы падоўгу затрымліваюцца ля прыгажосці, створанай мастаком. Ваччэй не адвесці! З вялікім натхненнем і цеплынёй малюе М. Басаў закаханых.

А яшчэ ён любіць ствараць партрэты. З асаблівым псіхалагізмам, тонка, цёпла, пранікнёна намаляваў бабулю Машу — чалавека цудоўнага, добрага, які вельмі шмат для яго значыў. Красамоўны штрых: яна падтрымлівала, карміла дзяцей з дзіцячага дома. "Ты можаш быць толькі мастаком", — неяк сказала яна ўнуку. Яе дабрыня, душэўнасць, шчырасць перадаліся Мацвею. У яго майстэрні захоўваецца міні-партрэт дарагой бабулі Машы...

У юбілейны для мастака год дзве яго персанальныя выстаўкі адкрыліся і за мяжой. Але з асаблівым хваляваннем Мацвей Басаў чакаў вернісаж на сваёй радзіме, у родным Мінску. Гэта сталася найлепшым падарункам і для самога мастака і для ўсіх, хто любіць творчасць таленавітага жывапісца.

Вера КРОЗ

На здымках: Мацвей Басаў і яго работы.

Фота Святланы Берасцень і з архіва мастака

# З чаго пачынаецца музей?




Цырымоніяй урачыстага падвядзення вынікаў завяршыўся адкрыты конкурс дызайну ўваходнага білета ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. Наша галоўная скарбніца выяўленчага мастацтва і яе генеральны партнёр "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" ладзілі гэтае творчае спаборніцтва шосты год запар. Калі летась у ім удзельнічалі 44 работы трыццаці чатырох, пераважна маладых, аўтараў, дык сёлета на перамогу прэтэндавалі дванаццаць канкурсантаў (у тым ліку сталыя прафесіяналы), якія прадставілі на суд журы і наведвальнікаў музея 23 узоры ўваходнага білета.




Перад пачаткам цырымоніі госці музея мелі магчымасць азнаёміцца не толькі з сёлетнімі конкурснымі работамі, але і з тымі варыянтамі білета, што вызначаліся як лепшыя на папярэдніх конкурсах і ўводзіліся ва ўжытак у мінулыя гады. Такая ўвага да, здавалася б, аднаразовага, надзеленага простай кантрольнай функцыяй, растыражаванага папяровага квітка вынікае з пазіцыі кіраўніцтва НММ Беларусі.

дома, што ў свеце ёсць наведвальнікі музеяў, якія калекцыяніруюць білеты (ведаю такіх людзей і ў Мінску), і хацелася б, каб і наша Беларусь выглядала ў такой калекцыі на годным еўрапейскім узроўні. Год ад году можа мяняцца колькасць удзельнікаў нашага конкурсу, яны могуць прадстаўляць больш ці менш удалыя работы. Але з кожным разам гэта ўсё роўна крок наперад, які актывізуе працу мастацкай думкі.

Міне паўгода, і работа мастака-пераможцы будзе распаўсюджвацца сярод мільёнаў наведвальнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі: уваходны білет новага дызайну з'явіцца тут з пачаткам 2011 года.

"Правядзенне гэтага штогадовага конкурсу — наша прынцыповая пазіцыя, — падкрэслівае дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў. — Перайначыўшы крылатае выслоўе: "Тэатр пачынаецца з вешалкі", дазволю сабе сказаць, што мастацкі музей пачынаецца з уваходнага білета. Гэта не проста чэк з касавага апарата, гэта брэнд музея, а, можа, і нешта больш значнае. Прынамсі, музей ставіцца да яго як да твора мастацтва і надае дызайну білета асаблівую ўвагу. У арыгінальных эскізах, якія кожны год распрацоўваюць удзельнікі конкурсу, па-свойму адлюстроўваецца гісторыя музея, адмысловым чынам выдзецца яго летапіс. Вякоў, стымулюе пошук у дызайне, далучае да захапляльнага творчага працэсу моладзь, у прыватнасці, студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў".

Член конкурснага журы, прафесар кафедры дызайну гуманітарнага факультэта БДУ Алег Чарнышоў адзначыў важнасць правядзення такога творчага спаборніцтва: "Культура нават праз другарадныя сродкі ўваходзіць у свядомасць. Сёння, калі ў культурны досвед нашага грамадства пранікае столькі некультурных з'яў, клопат пра мастацкае аблічча ўваходнага білета ў галоўны музей краіны — справа знакавая. Арганізатары конкурсу выказалі і прафесійны інтарэс, і глыбокую нацыянальную ідэю. Радуе, што для падтрымання аўтараў у спецыфічнай галіне графікі малой формы ў музея ёсць такі пранікнёны, чулы партнёр-спонсар. Музей багаты сваімі фондамі, каштоўнымі экспазіцыямі, таму вельмі важна, калі людзі, наведаўшы яго, панясуць з сабою і адмысловы білет — як прадмет асобнай, самастойнай цікавасці. Магчыма, ён, упрыгожыўшы хатні архіў, будзе нагадваць пра само існаванне музея і выклікаць імкненне пабываць там ізноў. Жыццё ў шырокім, філасофскім сэнсе, як вядома, складаецца з атамаў ды малекул, і праз такія вось "дробязі" мы ўрэшце атрымліваем тое, што называецца культурай".

У адпаведнасці з умовамі конкурсу былі вызначаныя тры ўзнагароды: галоўны прыз (1,5 млн. беларускіх рублёў), прыз сімпатый гледачоў (500 тыс. беларускіх рублёў) і прыз дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (камплект альбомаў і каталогаў НММ). У выніку тайнага галасавання галоўны прыз атрымаў аўтар білета, прадстаўленага на конкурс пад нумарам 20, — вядомы дызайнер-графік Сяргей Саркісаў; прыз сімпатый гледачоў дастаўся маладому дызайнеру Вікторыі Маеўскай. Прыз дырэктара Уладзімір Пракапцоў уручыў Сяргею Саркісаву, паведаміўшы, што, на яго думку, менавіта гэтаму аўтару ўдалося пераканаўча адлюстраваць у сваім эскізе вобраз музея, які мае класічны імідж.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: так выглядае білет-пераможца; начальнік аддзела па карпаратыўных сувязях "Брытыш-Амерыкан Табака Трэйдынг Компані" Сяргей Буры, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзімір Пракапцоў і ўладальнік галоўнага прыза — дызайнер-графік Сяргей Саркісаў падчас урачыстага падвядзення вынікаў конкурсу.

Фота Віктара Кавалёва



Значнай падзеяй у культурным жыцці Барысава стаў IX абласны конкурс майстроў манументальнай драўлянай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва". Упершыню ідэя творчага спаборніцтва разьбяроў па дрэве была рэалізавана ў 1998 годзе ў Капылі. З тых часоў свята пабывала ў шматлікіх раённых цэнтрах Мінскай вобласці і сёлета завітала ў горад на Бярэзіне.



# Упрыгожаць Барысаў драўляныя скульптуры



Урачыстае адкрыццё конкурсу адбылося ў раённым Цэнтры народнай творчасці, пасля чаго адзінаццаць майстроў на адкрытай пляцоўцы каля Цэнтра пачалі пілiць і секчы бярвенні, каб праз тыдзень з невялікім прадставіць на суд журы па два вырабы ў рознай тэхніцы.

Надышоў апошні дзень свята майстроў і рамяства, свята руплівых чалавечых рук. Частку драўляных скульптур арганізатары ўсталявалі на плошчы 900-годдзя Барысава ля помніка князю Барысу. Астатнія работы часова будуць знаходзіцца на тэрыторыі Барысаўскага раённага цэнтра народнай творчасці. Гэта сапраўдныя мастацкія творы, якія майстры зрабілі адпаведна свайму густу, прафесіяналізму і творчым задумам.

Для падвядзення вынікаў і ўзнагароджвання разьбяроў на самаробную сцэну быў запрошаны старшыня журы конкурсу, прафесар, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута.

— Прайшлі дзесяць дзён, і замест калоды дроў, якія былі назапашаны на дворыку, мы бачым выставу адмысловых твораў. Многія куточкі нашай зямлі аздоблены вось такімі арыгінальнымі работамі. Упрыгожаць яны і горад Барысаў, — адзначыў у прывітальным слове Я. Сахута.

Кожны з удзельнікаў конкурсу атрымаў дыплом у адпаведнай намінацыі: "Высокае майстэрства разьбы па дрэве", "Арыгінальнае пластычнае вырашэнне ў дрэве" ці "Выразнасць мастацкага вобраза, нацыянальныя матывы", а таксама каштоўны падарунак і прэмію.

Лаўрэатамі IX абласнога конкурсу майстроў манументальнай драўлянай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва" сталі Алег Шапель (Слуцк), Валерый Казлоўскі (Гомель), Віктар Русецкі (Стаўбцоўскі раён), Аляксандр Лукоўскі (Вілейскі раён), Алег Пракарына (Нясвіжскі раён), Сяргей Дубяга (Вілейскі раён), Леанід Санько (Стаўбцоўскі раён), Уладзімір Хіхіч (Мядзельскі раён), Мікалай Задрэйка (Валожынскі раён), а таксама бацька і сын Фёдар і Віктар Клунко з Брэстчыны.

З віншаваннямі да майстроў, членаў журы і гасцей свята звярнуліся сустаршыня аргкамітэта, намеснік старшыні Барысаўскага райвыканкама Валянціна Шутко, якая паведаміла, што ўсе драўляныя скульптуры будуць размешчаны ў гарадскім парку культуры. Галоўны спецыяліст аддзела ўстаноў культуры і мастацтва ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Галіна Ляйко падкрэсліла, што гэты пленэр, які штогод ладзіцца ў Мінскай вобласці, крочыць ад горада да горада, каб нашы вулачкі і паркі былі прыгожымі і ўтульнымі.

Ад разьбяроў выступіў сябра Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Алег Пракарына, які падзякаваў арганізатарам конкурсу за цёплы прыём, а таксама за тое, што не пашкадавалі 30 кубаметраў драўніны для працы.

Для майстроў ладзіўся невялічкі канцэрт мастацкай самадзейнасці, у якім прынялі ўдзел ансамбль народнай музыкі і песні "Спадчына" і лаўрэат Міжнароднага конкурсу "Южная звезда" народны эстрадны ансамбль "Белыя зоры". Ні вецер, ні дождж не сапсавалі святочнага настрою, які панаваў на аднаўленай плошчы старажытнага Барысава.

Эстафету X абласнога конкурсу майстроў манументальнай драўлянай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва" барысаўчане перадалі Слуцку, дзе свята адбудзецца ў наступным годзе.

— Узровень конкурсу — высокі, таму што майстры добра вядомыя, — зазначыў Яўген Сахута. — Моладзь таксама не падвяла, як прыклад — работы бацькі і сына Клунко з Брэстчыны. Творы майстроў унікальныя, яны аздобяць гарадскі парк, нададуць гэтаму куточку адметнасць і выразнасць. Гэткі падарунак гаспадарам заўсёды бывае пасля такіх пленэраў. Мы нікога асабліва не вылучаем з майстроў, усе яны атрымалі аднолькавыя ўзнагароды. Можна адзначыць арыгінальнасць работ гомельскага майстра Валерыя Казлоўскага, таму што ён спалучае дасягненні народнай скульптуры і прафесійнага майстэрства.

Калі гаварыць пра самабытнасць, я пазначыў бы работы Мікалая Задрэйкі з Івянца і Віктара Клунко з Брэсцкай вобласці, у якіх адчуваецца народны тыпаж, народная каларыстыка. У кожнага майстра свая стылістыка, напрыклад, Сяргей Дубяга з Вілейкі працуе ў анімалістычнай тэматыцы, у яго цудоўныя мядзведзі, зайцы і г.д. Трэба адзначыць, што з кожным годам майстэрства разьбяроў расце".

Анатоль МАЗГОЎ

На здымках: Леанід Санько ля сваёй скульптуры; Алег Пракарына і яго непаўторнае бервяно; Яўген Сахута (злева) узнагароджвае Сяргея Дубягу; Мікалай Задрэйка за працай.

Фота аўтара



## У наступным нумары

Сямідзесяцісямігадовы жыхар Гродна Ігар Міхайлаў даслаў ліст пра свайго бацьку — партызанскага паэта і пісьменніка Аляксандра Міхайлава. Сталага ўзросту чалавека клапаціла толькі адно — каб творчасць бацькі не была забытай, а стала вядомай, як і калісьці раней, у цяжкія часы Вялікай Айчыннай вайны. Карэспандэнт "ЛіМа" ўзяў камандзіроўку ў Гродна. У размове з нашчадкам слыннага чалавека высвятлялася шмат чаго адметнага. Так, нават знаходзячыся ў нямецкім палоне, бацька пісаў вершы. У маленечкі блакноцік, памерам прыкладна з запалкавы карабок.

З глыбінкі

## Глыток духоўнасці

Аматары паэзіі Ганцаўшчыны сустрэліся з паэтам-земляком Іванам Лагвіновічам з нагоды яго 70-гадовага юбілею. Арганізатарам гэтага мерапрыемства выступіла Ганцавіцкая раённая бібліятэка імя В. Ф. Праскурава пры ўдзеле Малькавіцкай сельскай бібліятэкі-музея — адзінай такой у раёне. Дарэчы, бібліятэка-музей — пераможца абласнога тура рэспубліканскага конкурсу "Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры".

Хоць сам паэт апошнім часам жыве ў Баранавічах, але з Ганцаўшчынай вельмі моцна сябруе, удзельнічае ва ўсіх літаратурных мерапрыемствах, якія ладзяцца тут.

Павіншаваць юбіляра сабраліся прыхільнікі яго творчасці, землякі, жыхары вёскі Малькавічы, а таксама літаратары з Баранавіч і Лунінеччыны. Вядучыя вечарыны — супрацоўнікі ганцавіцкай раённай бібліятэкі імя В. Ф. Праскурава Таццяна Маляўка і Ала Хваль — так павялі мерапрыемства, што яно нагадвала жаданую сустрэчу блізкіх па духу людзей, дзе разам з віншаваннямі ішла шчырая размова пра паэзію і пра творы наогул Івана Лагвіновіча ў прыватнасці. Чыталі вершы юбіляра вучні мясцовай сярэдняй школы, сам аўтар.

Але, бадай, самым хвалюючым было віншаванне старэйшай жыхаркі вёскі, былой сувязной партызанскага атрада, колішняй настаўніцы мясцовай школы 90-гадовай Ганны Жукоўскай.

Салісты Ганцавіцкага ДГ Віктар Багроў, Таццяна Салавей і Кацярына Ісаева аздаблялі вечарыну сваімі цудоўнымі спевамі.

Наогул, такія сустрэчы — вельмі добрая справа ў прапагандзе літаратуры. Я, як вясковы жыхар, магу гэта засведчыць. А сустрэча з Іванам Лагвіновічам, чалавекам, які большую частку свайго жыцця (з 17-гадовага ўзросту працаваў на шахтах Данбаса) пражыў па-за межамі Беларусі і застаўся верным сваім караням, беларускай мове, сталася прыкладам многім, асабліва тым, хто грэбуе родным словам, хто, адправіўшыся ў дарослае жыццё, забывае сцежкі і да родных сядзіб, і да бацькоўскіх магіл.

Сустрэча ператварылася ў сапраўдны ўрок грамадзянскасці. Тым больш, што сам Іван Лагвіновіч — чалавек надзвычайнай дабрыні, сціпласці, шчырасці, інтэлігентнасці. А гэтыя якасці, пагадзіцеся, асабліва ў нашым сённяшнім часе, нешта ды значаць.

Ірына РУДКОЎСКАЯ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2998
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.06.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 2989

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686